PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 1 (1912) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 3 СТУДЗЕНЯ 1993 г. ЦАНА 2500 зл.

*Спакойнага і радаснага*

*Раджаства Хрыстова*

*ўсім чытачам жадае „Ніва"*



*Дарога ў Гарадок.* **Фота Віктара Рудчыка**

## НАРАДЖЭННЕ ГОСПАДА НАШАГА ІСУСА ХРЫСТА

*Нараджэньне Тваё Хрысьце Божа наш, асьвяціла людзей сьвятлом богапазнаньня. Бо тыя, што служылі зоркам, зоркаю-ж былі навучаныя пакланяцца Табе, Сонцу праўды, і ведаць Цябе, Усходзе з вышыняў. Госпадзе, слава Табе!*
*Трапар, сьпеў 4*
*/Беларускі праваслаўны маліто́ўнік, стар. 96/*

Свята Раджаство Хрыстова паявілася ў апостальскія часы, а менавіта ў I стагоддзі. Тады адзначалі яго 6 студзеня / 19 студзеня па старому стылю/ разам з Хрышчэннем, якія абазначалі супольнай назвай Богаяўленне. Мела гэта сувязь з праследаваннем хрысціян. Толькі з I Усяленскага сабора, які адбыўся ў 325 годзе ў Ніццы, Раджаство пачалі святкаваць 25 снежня /7 студзеня ст. ст./. Гэтая дата мае дачыненне да язычніцкага свята "Непераможнага сонца", а таксама мела сувязь з міланскім эдыктам ад 313 г., які зраўняў у правах хрысціянства з рымскай рэлігіяй. Хрысціянства неўзабаве распаўсюдзілася і замацавалася ва ўсёй Рымскай імперыі.

Пасля Свята Уваскрасення Раджаство Хрыстова з'яўляецца найбольш радасным святам і таму поўнасцю абгрунтаванай з'яўляецца яго іншая назва - зімняя Пасха.

На гэтае здарэнне свет чакаў здаўна, з часу выгнання нашых Прабацькоў з Раю. Тады гэта Бог абяцаў прыслаць людзям Збавіцеля, які пераможа Сатану, праз якога сыходзіў на Зямлю грэх, і збавіць людзей. Каб людзі не забылі абяцанне дадзенае Богам, з гэтага часу мелі яны абавязак прыносіць ахвяраванні. Такім чынам старазапаветныя ахвяраванні, якія складаліся разам з малітвай за адпушчэнне грахоў, былі адначасна праобразам Збавіцеля, які меў праліць сваю кроў за нашыя грахі.

Увесь перыяд Старога Запавету з'яўляецца падрыхтоўкай упадачнага чалавецтва да спаткання з Месіяй. Шматлікія прароцтвы дакладна прадвяшчалі час, месца і акалічнасці прыходу на свет Збавіцеля.

І вось набліжаўся чаканы тысячагоддзямі дзень. У той час кесар Аўгуст выдаў эдыкт, у якім загадаў зрабіць перапіс насельніцтва ў Імперыі. У Іудзеі перапіс пачаўся каля 750 года з заснавання Рыма. Яўрэі былі вельмі прывязаныя да сваіх родаў і родных мясцін і таму вырашылі перапісвацца там, адкуль яны выводзіліся. Прасвятая Дзева Марыя і яе апякун Іосіф падаліся ў Віфляем, бо яны абое выводзіліся з роду караля Давіда, а той нарадзіўся ў гэтай мясцовасці. Калі яны прыбылі ў Віфляем, дык ужо не знайшлі месца ў гасцінічных дамах і падаліся за горад ды спыніліся ў пячоры / вертэп/, куды пастыры ў кепскае надвор'е заганялі свае чароды. Тут ноччу нарадзіўся Збавіцель свету - Хрыстос. Прасвятая Багародзіца завярнула Яго ў пялёнкі і паклала ў яслі. Ніхто не ведаў пра нараджэнне Збавіцеля. У гэтую ноч не спалі толькі пастыры, якія з чародамі былі на пашы непадалёк Віфляема. Гэта Анёл паведаміў ім аб нараджэнні Хрыста. Неўзабаве пачулі яны анельскі спеў "Слава в вышних Богу и на земле мир, в человечех благоволение". І гэта яны прыходзяць да нованароджанага Збавіцеля, і яны першыя прыносяць яму скарбы сваіх сэрцаў - прастадушнасць, веру і пакорнасць. Гэта паказвае на самую кароткую дарогу, якая вядзе да Хрыста. Затым Хрысту пакланяюцца мудрацы /волхвы/ з Усходу, праўдападобна з Персіі. Іх прыход быў сімвалам пакланення старажытнага язычніцкага свету Хрысту. Іх дары сімвалізуюць, што Збавіцель з'яўляецца Каралём, Богам і чалавекам. Золата - гэта даніна Каралёў, ладан - прымяняецца падчас набажэнстваў у гонар Бога, смірна - дарагі пахучы алей прыпадносіцца чалавеку, які павінен памерці / гэткім алеем змазвалі пасля смерці цела/.

Мэтай прыходу Хрыста на Зямлю было не толькі паказаць нам праўдзівую дарогу да Збаўлення і паказваць добрыя прыклады. Божы Сын стаў чалавекам, каб аб'яднаць нас з Сабою, каб мы хворую чалавечую натуру спалучылі з Яго Боскасцю. Калі спазнаем тайну Ваплашчэння дык бачым, што яна цесна спалучана з Таінствам Прычасця і з Царквою, якая, паводле Апосталаў, з'яўляецца таінственным целам Хрыста.

Цяжка паняць розумам тое, як Бог мог прыняць чалавечае цела ..."вялікая ёсьць тайна багабойнасьці і Бог зьявіўся ў целе..." /1 Ціма́ф. 3,16/, таму тут патрэбна глыбокая і шчырая вера, таму, што "... у Бога ніводнае слова ня будзе немагчымым" /Лука 1,37/.

Памятайма аб гэтым, каб, сустракаючы ў гэтым годзе Богамладзенца Ісуса Хрыста, рабіць гэта перш за ўсё з верай, малітвай, чыстым сэрцам і спяваннем калядак.

С.Н.

## ЯКАЯ АМЕРЫКА?

Надышоў новы, 1993 год. Які ён будзе для нас, шэрых людцоў? Ці станем мы яшчэ шарэйшымі, яшчэ менш патрэбнымі і менш заможнымі?.. Разгубіліся мы, не патрапім знайсці сябе ў новых варунках.

Нядаўна давялося мне слухаць па радыё перадачу. Журналіст пытаў у розных людзей пра адно: з чым асацыіруецца ім капіталізм. Людзі адказвалі па-рознаму: з хуткімі самаходамі, з поўнымі паліцамі тавару ў крамах, з кветкамі, з чыстымі вітрынамі, з цэлымі тратуарамі, з парадкам на вуліцах і г.д.

Што датычыць гэтых спраў, дык я якраз не кінула б у адзін мяшок усе заходнія краіны. У Лондане поўна кветак, а ў Нью-Йорку — на лякарства, у немцаў — чысціня, а ў англійскіх гарадах к вечару на вуліцах гіганцкі сметнік, у Аўстрыі — чырвань кветак у вакне кожнай вілы, а ў суседняй паўночнай Італіі — як бы запраграмаваны балаган, аблезлыя сцены дамоў, бестурботнасць і... элегантнасць.

Мне капіталізм асацыіруецца з працай, за якую чалавек атрымлівае салідную заплату — калі, вядома, добрасумленна і выдайна працуе.

Мара пра поўныя паліцы згубіла нас. У сацыялістычнай ментальнасці чалавека цвёрда замацавалася максіма, быццам усё тое, што ёсць у продажы, можна купіць. Чалавек на Захадзе (сярэдне заможны, вядома) добра падумае, пакуль зробіць нейкую пакупку. А мо дзесьці можна купіць танней? А мо лепш яшчэ пачакаць, мо тавар пераацэняць... А мо наогул лепш адлажыць лішні долар на чорную гадзіну... У нас жа, калі ўжо нешта прадавалі, дык гэта было даступна практычна кожнаму. Танны, з субсідыямі тавар вывозілі амаль гуртам за граніцу (у СССР, Венгрыю, Румынію...). І заўсёды было яго замала.

Большасці нашых землякоў новыя ўмовы ўяўляліся так: усе дабрадзействы сацыялізму застануцца (бясплатныя яслі, прадшколлі, медыцынская апека, санаторыі, амаль дармовыя кватэры, лякарствы, транспарт, дамы адпачынку), а атрымаем мы за сваю працу мноства грошай, як у краінах развітага капіталізму.

Выйшла якраз наадварот: заробкі ў нас засталіся больш-менш на старым узроўні, а цэны сталі „заходнія" або і вышэйшыя, ды і так званых дабрадзействаў нас пазбавілі або пазбаўляюць пакрысе і цяпер за ўсё трэба плаціць.

Узяўшы пад увагу, што за заходняй нашай граніцай сярэднія месячныя заробкі складаюць 2000 долараў (у нас — 200), можна пацяшаць сябе фактам, што за ўсходняй мяжой яны яшчэ меншыя, як у нас, бо ўсяго 20 долараў. Малая аднак з гэтага пацеха, бо сёння ў нас за 200 долараў утрымаць стары ўзровень жыцця немагчыма.

Паліцы запоўніліся таварам, але даступны ён нямногім. Зрэшты, кажуць, што ў краінах так званага трэцяга свету таксама поўныя паліцы, а людзі там паміраюць з голаду.

Калі людцы нашы марылі пра тое, што стане і тут „Амерыка", дык нейк не бралі пад увагу, што Амерыка можа быць таксама... Лацінская.

**АДА ЧАЧУГА**

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Powojenni budowniczowie PRL nie jedli, nie spali, mieszkali kątem, ginęli dla idei, nie dla pieniędzy.*

*Dzisiaj za budowę nowej rzeczywistości gospodarczej wzięła się gromada hipokrytów i cyników, wykorzystując zresztą w tym celu Kościół. Z jednej strony pieprzą nieustannie o moralności, a z drugiej patrzą jakby tu posunąć Anastazję. Tyle w tym zakłamania i fałszu, że wylewa się to z parlamentu na województwa, z województw do miasta, a gmina udanie naśladuje miasto.*

*(Kurier Podlaski nr 245)*

Якая ідэя — такія здзяйсняльнікі. Быў камунізм — была ідэя,*a posuwanie Anastazji* — ці можна гэта лічыць ідэяй?

* * *

*Nie było czerwonycyh i była Polska przedwojenna, gdzie było lepiej niż jest w tej chwili w Ameryce.*

*(Polityka nr 51)*

Што праўда, то праўда. Шмат хто пасвіў за санацыі кароў. Восенню пастушок чакаў толькі, калі якая-небудзь насікае, каб пагрэць у лужыне здубянелыя босыя ногі. І неграў санацыя не душыла.

* * *

*70 lat temu narodowe chrześcijaństwo doprowadziło do zamordowania prezydenta Rzeczypospolitej Polskiej.*

*(Gazeta Wyborcza nr 295)*

Няпраўда! Беларусы былі тады ў КПЗБ.

* * *

*Kradną teraz wszyscy. Niektórych nigdy bym nie podejrzewał o to.*

*(Gazeta Współczesna nr 245)*

Гамулка, у 68-м здаецца, сказаў, што *władzy raz zdobytej nie oddamy*. Ён таксама *nie podejrzewał.*

* * *

*W białoruskim mieście Wołkowysk kolejna niemiecka firma rozpoczęła budowę osiedla mieszkaniowego dla wojskowych powracających z garnizonów z terenów byłej NRD. Jest to już siódma inwestycja tego typu na Białorusi finansowana przez stronę niemiecką.*

*(Gazeta Współczesna nr 245)*

Някепскае выйсце — немцы вывядуць савецкіх вайскоўцаў, а Беларусь пераўтворыцца ў гарнізон „Садружнасці”. Гэта гучыць лепей, чымсці „северно-западный край”.

* * *

*Jak rodziła się ustawa antyaborcyjna.*

*(Gazeta Współczesna nr 245)*

Быццам трынаццатае дзіця вясёлай дзяўчынкі (лёгка).

* * *

***Увёсцы Сямежава, дзе 72 гады назад знаходзілася Рада Случчыны, мясцовае начальства папярэдзіла сялян — як пан прыгонных — каб не смелі браць удзелу ў мітынгу. Старшыня мясцовага калгаса прыгразіў знішчыць крыж, які госці з Менска паставілі тут у памяць герояў Случчыны.***

***(Літаратура і мастацтва н-р 49)***

Серпом жни,
Молотом куй —
Всё равно получишь ...

* * *

***Karczma, a nie Sejm*** — крычалі паслы ў час дыскусіі над бюджэтам.

***(Gazeta Wyborcza nr 296)***

Няма чаго саромецца. У гісторыі быў ужо адзін палітык, кар'ера якога пачалася ў піўнушцы менавіта (у мюнхенскай піўнушцы, для дакладнасці).

* * *

*Anastazja zaliczana jest do świętych i to męczennic. Podobno modlitwa do niej pomaga na ból głowy. Uważana jest także za patronkę cenzury i dlatego często przedstawiana jest z nożyczkami w ręku.*

*Anastazja P. na szczęście świętą nie jest, bo kto wie, czy pewna laska marszałkowska nie zostałaby przycięta.*

*(Kurier Podlaski nr 245)*

# З мінулага тыдня

**Польшча, Венгрыя, Чэхія і Славакія** падпісалі ў Кракаве сярэднееўрапейскае пагадненне аб свабодным гандлі, якое ўступіць у сілу 1 сакавіка 1993 г. Пагадненне прадбачвае паступовае знясенне мыта ў гандлі паміж гэтымі краінамі /спачатку на сыравіну і некаторыя прамысловыя тавары/. Апошнія мытныя бар'еры плануецца знесці ў 2001 годзе.

**Вярхоўны Савет Расіі** ратыфікаваў трактат аб добрасуседскім і дружалюбным супрацоўніцтве паміж Рэчыпаспалітай Польскай і Расійскай Федэрацыяй. Гэтым самым парламент пацвердзіў, што польска-расійскае пагадненне адпавядае інтарэсам Расіі і з'яўляецца добрай юрыдачнай асновай для развіцця дружалюбных адносін паміж абедзвюма краінамі, не зважаючы на цяжкую і трагічную гістарычную спадчыну.

**I З'езд беларусаў блізкага замежжа** адбыўся ў Менску. Зараз на тэрыторыі былога СССР пражывае 3,5-мільённая беларуская дыяспара. Адным з цяжкіх праблемаў беларусаў, якія пасля развалу Савецкага Саюза апынуліся за межамі радзімы, з'яўляецца вайсковая служба ў іншых краінах СНД. Па-за Беларуссю службу нясе 40 тысяч вайскоўцаў, а ўжо 13 тысяч хоча вяртацца дадому. Для паловы з іх знойдзецца месца ў казармах на тэрыторыі РБ, але ўсіх ахвотных Бацькаўшчына не прыме. Не вырашана яшчэ справа грамадзянства і віз для беларусаў у Прыбалтыцы, невядома таксама калі будуць адкрыты пасольствы Рэспублікі Беларусь у Маскве, Вільні, Рызе і Таліне. У З'ездзе прымала ўдзел шматлікая дэлегацыя беларусаў Беласточчыны /да гэтай тэмы неўзабаве вернемся ў асобнай публікацыі/.

**У Крапкавіцах** адбыўся штогадовы агульны сход Грамадска-культурнага таварыства нямецкай меншасці на Шлёнску Апольскім з удзелам 900 дэлегатаў. У Апольскім ваяводстве апрача 180 тысяч членаў Таварыства пражывае яшчэ 120 тысяч чалавек, якія прызнаюцца да нямецкага паходжання. Нямецкае насельніцтва складае трэцюю частку жыхароў ваяводства. Дэлегаты ўвялі ў статут Таварыства папраўкі, якія дазволяць арганізацыі весці гаспадарчую, гандлёва-паслуговую і турыстычную дзейнасць, выдаваць газеты, эмітаваць радыё- і тэлеперадачы. Пасвараныя да гэтай пары правадыры нямецкіх арганізацый /**Генрых Кроль** - старшыня успомненага Таварыства, **Дзітмар Брэмер** - галава Аб'яднання "Прымірэнне і будучыня" і **Геарг Брылька** - шэф Цэнтральнай рады нямецкіх таварыстваў у Польшчы/ афіцыйна на сходзе паміryліся.

**Шчэцінская пракуратура** ўзбудзіла следства ў справе аўтараў і распаўсюджвальнікаў лістовак, падпісаных "Нацыянальным фронтам Польшчы", якія могуць выклікаць нацыянальную варожасць. Лістоўкі раскідвалі ў Шчэціне мясцовыя скіны ў пачатку снежня мінулага года. Пачыналіся яны са слоў: "Палякі, прачніцеся" і заклікалі выгнаць з Польшчы польскіх і румынскіх цыганоў.

"**Крэсы'92** - I Дэкламатарскі конкурс для палякаў у Літве, Беларусі і Украіне, у якім удзел прыняло звыш тысячы аматараў мастацкага слова, закончыўся на сцэне Дзяржаўнай вышэйшай тэатральнай школы ў Беластоку. У фінале конкурсу, які працягваўся цэлы тыдзень, выступіла 28 дэкламатараў, у тым ліку 6 з Беларусі, якія чыталі фрагменты "Пана Тадэвуша" і давольна выбраны твор польскага пісьменніка. У конкурсе перамагла **Беата Сямашка** з Вільні. Мерапрыемства арганізавалі Таварыства тэатральнай культуры ў Беластоку, Таварыства "Wspólnota Polska", а спансаравалі - Міністэрства культуры і мастацтва, **Фонд** культуры ў Варшаве і Аддзел грамадскіх спраў Ваяводскай управы ў Беластоку.

**Канфлікт паміж каталікамі і праваслаўнымі** з-за могільніка ў вёсцы Ракалупы ў Холмскім ваяводстве закончыўся пагадненнем. Старыя праваслаўныя могілкі ў гэтай вёсцы былі ў 1986 годзе перададзены мясцовай каталіцкай парафіі. Перад мінулагоднімі Дзядамі па загаду пробашча сталі наводзіць парадак на могільніку такім чынам, што пры дапамозе бульдозера знішчылі надмагільныя помнікі, магілы зраўнавалі, а ўсю тэрыторыю ніжэліравалі. Дамова, якую падпісалі арцыбіскуп люблінскі **Баляслаў Пыляк** і ўладыка **Авель** прадбачвае, што гэтай восенню ў адну з кватэр могілак будуць вернуты надмагільныя помнікі і будзе там ўстаноўлены новы крыж.

**Беларускі штангіст Альберт Цімярбаеў** з Гродна заваяваў I месца /і тры тысячы долараў/ на "Турніры чэмпіёнаў" у Седльцах. Спартсмен, які важыць 83 кг, дасягнуў у двухбор'і вынік 367,5 кг /167,5+200/ і набраў 413 ачкоў. Да гэтай пары ён двойчы заваёўваў медалі на чэмпіянатах СССР, але ніколі не прымаў удзелу ў важных міжнародных спаборніцтвах. У Седльцах гродзенец зарэкамендаваў сябе знакаміта і перамог алімпійскіх медалістаў і чэмпіёнаў свету.

# ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ „У НІВЕ”

- ✓ Чаму мы бедныя і дурныя — задумоўваецца С. Яновіч.
- ✓ Дайшло да таго, што ваўка абараняць трэба — піша П. Байко.
- ✓ Каго і што чытаюць у "Ніве" вяскоўцы — расказвае М. Панфілюк.
- ✓ Пра жыццё св. Сцяпана піша С. Назарук.
- ✓ Журналісты "Нівы" пра сваю пабыўку на Беларусі.



# ТЭЛЕФАКСАМ З МЕНСКА

**НА ВЯЛІКІ СХОД! НА БАЦЬКАЎШЧЫНУ!**

У мінулыя выхадныя дні ў Менску адбыўся першы з'езд беларусаў "блізкага" замежжа.

Ва ўтульнай зале Дома літаратара ўпершыню сабраліся прадстаўнікі шматлікіх беларускіх суполак амаль з усіх краін былога СССР. Размова на гэтым нацыянальным форуме ішла не толькі аб праблемах нашых суайчыннікаў за межамі Радзімы - цяжкае матэрыяльнае становішча, адсутнасць сродкаў на развіццё беларускай культуры, захаванне нацыянальных традыцый, роднай мовы.

Акрамя гэтага, замежныя беларусы выказалі занепакоенасць лёсам Рэспублікі Беларусь, кіраўнікі якой недастаткова дбаюць аб умацаванні рэальнага суверэнітэту Бацькаўшчыны.

Вынікам працы з'езду стала прыняцце зваротаў ад народу Беларусі яе парламенту і ўраду з заклікам умацаваць суверэнітэт маладой беларускай дзяржавы.

І яшчэ. Удзельнікі форуму звярнуліся да беларусаў усіх краін з прапановай сабрацца ўлетку наступнага года на з'езд беларусаў свету.

**СПУЖАЛІСЯ ЦІ ПАВАЖАЮЦЬ?**

Бадай што самы кароткі мітынг за апошнія гады адбыўся днямі на плошчы Незалежнасці ў Менску. Правялі яго ветэраны ўзброеных сіл літаральна за пяць хвілін.

Ледзь толькі сабраліся ветэраны змагацца за закон аб пенсіях для ваеннаслужачых, як парламент ужо прыняў гэты дакумент, і ўзрадаваныя мітынгоўшчыкі ў момант разышліся па хатах.

**ГАНЧАРЫК І МЯСНІКОВІЧ ЗНАЙШЛІ АГУЛЬНУЮ МОВУ**

Федэрацыя парфесіянальных саюзаў Беларусі адмяніла прызначаныя на канец снежня мітынгі пратэсту працоўных супраць сацыяльна-эканамічнай палітыкі ўрада.

Лідэр ФПБ Уладзімір Ганчарык і першы віцэ-прэм'ер Міхась Мясніковіч пасля трохдзённых перамоў знайшлі такі кансенсус. Урад абавязаўся вярнуць людзям хоць частку "з'едзеных" інфляцыяй грашовых зберажэнняў, а таксама адклікаць з Вярхоўнага Савета свой праект закона перамоў аб лакаўце. Немалаважную ролю ў мірным завяршэнні перамоў адыграў і парламент рэспублікі, які ўстанавіў днямі мінімальны заробак у памеры 3 тысячы рублёў у месяц, што на цэлую тысячу больш за ранейшы.

Такі вось калядны падарунак народу Беларусі.

**ЧАРНОБЫЛЬ: НАШ БОЛЬ І... БІЗНЕС**

Сенсацыйную заяву зрабіў на мінулым тыдні дэпутат рэспублікі Анатоль Волкаў.

Ён паведаміў, што ў хуткім часе Прэзідыум беларускага парламента мяркуе разгледзець пытанне аб будаўніцтве на Беларусі атамнай электрастанцыі. Прычым, як сцвярджае народны дэпутат, гэтая АЭС будзе хутчэй за ўсе размешчана ў чарнобыльскай зоне.

Акрамя таго, спадар Волкаў зрабіў яшчэ не меньш сенсацыйную прапанову: браць з замежных вучоных грошы /пажадана ў валюце/ за навуковую інфармацыю па чарнобыльскай тэматыцы.

Пакуль што ні на заяву, як і на прапанову парламентарыя афіцыйныя ўлады не прарэгавалі. Хто ведае, можа гэта маўчанне - і сапраўды знак згоды.

**ЗБРОЯ НЕ БУДЗЕ ПАТРЭБНА, І ЛЮДЗІ ЯЕ ЗЛАМАЮЦЬ**

23 снежня 1992 г. Беларусь пачала скарачэнне ўзбраенняў і тэхнікі. У гэты дзень у Барысаве, на мясцовым бранятанкавым заводзе, былі "раззброены" або пераплаўлены баявыя машыны пяхоты. А неўзабаве такі ж лёс напаткае і "лішнія" танкі.

**ЛЯЦЯЦЬ ПЕРАЛЁТНЫЯ "ПТУШКІ"**

На кантрольна-прапускным пункце Брузгі - сапраўднае паломніцтва беларусаў. Чарга аўтамашын грамадзян, што падаваліся ў Польшчу якраз на каталіцкія Каляды, расцягнулася амаль на дзесяць кіламетраў. Не было дзе яблыку ўпасці і на чыгуначным вакзале, там таксама было шмат жадаючых трапіць у суседнюю дзяржаву на свята.

А вось наведаць краіны больш далёкага замежжа жадаючых мала. Дарэчы, сёлета значна паменшылася і колькасць эмігрантаў з Беларусі. Напрыклад, у гэтым годзе толькі крыху больш за тры тысячы менчукоў вырашылі назаўсёды пакінуць Бацькаўшчыну, што ўдвая меньш, чым у мінулым годзе. Праўда, гэта не азначае, што тут, на Беларусі, стала лепш жыць. Проста, відаць, і за мяжой не надта радасна сустракаюць нашых суайчыннікаў.

**ПАЛЕШУКІ МЫ, А НЕ БЕЛАРУСЫ**

Беларускі фонд культуры вывеў са свайго складу культурна-асветніцкае аб'яднанне "Палісьсе" за палітыку расколу тэрытарыяльнага адзінства Беларусі.

Нагадаю, што "Палісьсе" выступае за афіцыйнае прызнанне паляшуцкае мовы, а таксама саміх яе носьбітаў як асобнага народу, з наданнем яму тэрытарыяльна-культурнай аўтаноміі.

**ПАДАЙЦЕ НА РЭСТАЎРАЦЫЮ**

Зусім нядаўна Міністэрства замежных спраў Беларусі атрымала ад ЮНЕСКА 25 тысяч долараў на рэстаўрацыю Мірскага замка. Гэта толькі першая грашовая дапамога на аднаўленне сусветна вядомага помніка. У бліжэйшы час чакаецца паступленне каля 500 тысяч долараў ад фундатараў з Італіі, Германіі і іншых краін Еўропы.

**МІКОЛА ДЗЯБЁЛА**

# РЫСІ З ПЕРАДАТЧЫКАМІ

У лабараторыі даследавання млекакормячых ПАН у Белавежы ўзнік некалькі гадоў таму назад калектыў, складзены з маладых вучоных, якія займаюцца абследаваннем драпежнікаў у Белавежскай пушчы, ды не толькі ў яе. Групу гэтую састаўляюць доктары Генрык Акарма, Багуміла і Уладзімеж Енджаеўскія і магістр Кшыштаф Шмідт. У сваёй працы выкарыстоўваюць яны сучасную тэхніку тэлеметрыі, якая дагэтуль у Польшчы заолагамі не прымянялася. Зрэшты, не толькі ў Польшчы, але і ў Сярэдняй ды Усходняй Еўропе. Даследчыкам, пакуль што, удалося абследаваць пры дапамозе новага метаду некалькі рысяў. Хочуць яго прымяніць таксама і пры абследаванні ваўка, але на перашкодзе стаялі бясснежныя дагэтуль зімы. — Можа гэтай зімы будуць адпаведныя ўмовы, — гаворыць д-р Г. Акарма, — якія дазволяць нам высачыць воўчыя шляхі і паставіць на іх пасткі. З рысем — лягчэй, ён даецца злавіць у клетку, на прынаду, а воўк у сваю чаргу намнога хітрэйшы і больш асцярожны.

Злоўленаму драпежніку даследчыкі накладаюць аброжак з перадатчыкам і выпускаюць яго ізноў на свабоду. Кожная такая злоўленая асобіна атрымоўвае імя. Дзякуючы перадатчыку можна сачыць за іх актыўнасцю, устанаўліваць тэрыторыі, на якіх яны жывуць, велічыню займаемых імі г. зв. індывідуальных арэалаў ці шляхі, якімі яны вандруюць.

— Што мы даведаліся пра рыся, дзякуючы прымяненню тэлеметрыі? — ставіць сабе пытанне Г. Акарма. — Перш за ўсё мы былі здзіўлены велічынёй абшару, які можа займаць гэты драпежнік. Аказваецца, што даросламу самцу падыходзіць плошча нават звыш 250 квадратных кіламетраў. Так, што ў Белавежскай пушчы ёсць месца для ўсяго... двух дарослых самцоў. Усё ж, па нашых меркаваннях, жыве іх тут тры, апрача таго дзве самкі і трое маладых. А афіцыйныя даныя гавораць аб 18 ці 19 асобінах. Больш падрабязныя весткі, якія мы ўстанавілі аб рысю, зацікаўлены чытач знойдзе ў артыкулах, якія будзем публікаваць у папулярнапрыродазнаўчай і перш за ўсё ў навуковай прэсе.



— Падчас нашых доследаў над рысем, — даказвае мне К. Шмідт, — здарыўся трагічны для аднаго самца выпадак, якраз з заложаным аброжкам. Мы аднойчы занепакоіліся, што „наш" рысь задоўга знаходзіцца ў адным месцы. Калі праверылі ў тэрыторыі, аказалася, што ён злавіўся ў сілы, застаўленыя браканьерамі. Праўда, яму ўдалося вызваліцца з іх, але ўсё-такі дрот на назе астаўся. Рысь, узлезшы з ім на дрэва, пры спробе пераскочыць на другую галіну, павіс у паветры, бо дрот заблытаўся недзе ў галінах. Хіба не трэба гаварыць, якія мукі перанёс, пакуль памёр. Рысь гэты быў прэпараваны ў Ольштыне і зараз, як экспанат, дэманструецца ў белавежскім Прыродазнаўчым музеі.

Дзякуючы доследам белавежскіх заолагаў над рысем і ваўком, у Белавежскай пушчы ўстрымана на той час іх адстрэлы. Скарыстала перш за ўсё звярына!

На заканчэнне пытаю д-ра Г. Акарму, адкуль у іх тэлеметрычная апаратура. Аказваецца, што купілі яе на Захадзе (у Польшчы яе не вырабляюць). Сродкі на пакупку часткова выпрацавалі яны ў выніку супрацоўніцтва з замежнымі даследчымі арганізацыямі, а часткова вылажылі ўласныя грошы.

**ПЁТР БАЙКО**

**мал. Лешка Навацкага**

# ФОНД БЕЛАВЕЖСКАЙ ПУШЧЫ

Фонд абазначае ўстанову, асновай якой з'яўляецца маёмасць, прызначаная яе заснавальнікам на акрэсленыя мэты, напрыклад, навуковыя, культурныя, філантрапічныя; форму гаспадаркі, якая існуе ў межах грамадска-эканамічнага парадку і вызначаецца пэўнай формай уласнасці. Так пра фонд напісана ў энцыклапедыі.

Такі менавіта фонд быў створаны ў Белавежы. Органамі Фонду з'яўляюцца Рада і Управа. У іх склад увойдуць назначаныя генеральным дырэктарам Дзяржаўных лясоў прадстаўнікі зацікаўленых Фондам прыпушчанскіх гмін ды дзяржаўны паркаў. У Фонд могуць уступіць усе людзі добрай волі дзеля ратавання Белавежскай пушчы ад цалкавітага яе знішчэння.

Маёмасць Фонду складзе пакуль 50 мільёнаў злотых. У Фонд уступілі чатыры гміны: Белавежа, Нараўка, Дубічы-Царкоўныя, горад і гміна Гайнаўка.

Мэтай Фонду з'яўляецца падтрымка дзейнасці арганізацыйных адзінак, навуковых арганізацый, тэрытарыяльных самаўрадаў ды фізічных асоб на карысць:
- аховы асяроддзя,
- аховы помнікаў прыроды,
- захавання лясных масіваў,
- трывалага ўтрымання разнароднасці звярынага і раслліннага свету,
- утрымання чыстасці вады,
- аховы старадаўняй культуры, звязанай з лясным асяроддзем,
- памяншэння і ліквідацыі шкоднага ўздзеяння прамысловасці, камунальнай гаспадаркі ды іншых прычын забруджання натуральнага асяроддзя.

Сёння праз Дубічы-Царкоўныя ездзяць магутныя "Татры" ды вывалакаюць у Бельск-Падляшскі найлепшыя дрэвы з Белавежскай пушчы. Кожнай восенню і зімою, сяляне з навакольных вёсак фурманкамі таксама вывозяць драўніну з пушчы. Колькі ўжо гэта гадоў так яно цягнецца? За санацыі адна англійская фірма спусташала Белавежскую пушчу. Пазней жа, у 1939–41 гадах, вызваліцелі мокрага месца ў ёй не пакінулі. Вось цікава было б ведаць, як выглядае тая частка Белавежскай пушчы, што па другі бок мяжы, у нашых братоў. Кажуць, што там яна як запаведнік, не знішчаецца чалавекам. Але я ведаю сваё - там, дзе кіравалі бальшавікі, там не магло быць парадку. Пушча ў іх парэзаная шашамі, а іхнія кіраўнікі і сакратары ладзілі сабе там паляванні.

Мой бацька калісьці гаварыў, што "сэрца" і багацце Белавежскай пушчы па гэты бок. Дык не будзьма дзікунамі і не знішчайма таго, чым абдаравала нас прырода.

**МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК**




**Szanowna Redakcjo,**

w mieście naszym 30 października 1992r. powstało Stowarzyszenie "Pojednanie Europejskie". Cele, jakie stawia ono sobie, to przede wszystkim tworzenie klimatu społecznego sprzyjającego wzajemnemu poznawaniu się narodowościowych i religijnych wspólnot w Europie, a szczególnie - w Polsce, wychowanie dzieci i młodzieży w duchu tolerancji, przyjaźni i współpracy przy stawianiu i osiąganiu wspólnych celów społecznych, oraz współpraca osób i organizacji dla krzewienia przyjaźni między narodami, grupami etnicznymi czy też wspólnotami wyznaniowymi i ideowymi. Dla osiągnięcia tych celów Stowarzyszenie już obecnie organizuje spotkania z prelekcjami i prowadzi świetlicę, w której gromadzi i udostępnia czasopisma, książki i inne wydawnictwa, mogące służyć postawionym sobie celom. W dalszych zamiarach pragnie także organizować wystawy i koncerty, podejmować własny wysiłek wydawniczy i wysiłek oddziaływań wychowawczych w szkołach i organizacjach młodzieżowych.

Wśród zorganizowanych dotąd spotkań otwartych w naszej świetlicy odbyło się spotkanie n.t.: "Białoruska droga do niepodległości", na którym uczestnicy wyrazili gotowość wstąpienia do towarzystwa przyjaźni polsko-białoruskiej. W świetlicy naszej dostępny jest także tygodnik "Niva" oraz "Biełaruski kalandar 1992".

Przekazując te informacje do wiadomości Szanownej Redakcji proszę o życzliwe zainteresowanie się i o ewentualną współpracę. W r. 1993 "Nivę" będziemy otrzymywać z prenumeraty. Prosimy jednak o informacje o innych wydawnictwach dot. Białorusi i prawosławia, jeżeli są one dostępne. Prosimy też o pilną informację, czy istnieje już w Polsce Towarzystwo Przyjaźni Polsko-Białoruskiej, a jeżeli tak - o podanie jego adresu. Liczymy także na pomoc w zakresie nawiązywania kontaktów ze społecznymi, kulturalnymi, gospodarczymi i politycznymi organizacjami na Białorusi. Wdzięczni też będziemy za propozycje ze strony Szanownej Redakcji. Na życzenie gotowi jesteśmy informować na bieżąco o przejawach naszej działalności i o naszych zamierzeniach.

**Władysław E. Klimek**

**Przew. Tymczas. Zarz.**

P.S. Przesyłamy najlepsze życzenia z okazji zbliżających się świąt Bożego Narodzenia i Nowego Roku, zarówno redakcji tygodnika "Niva", jak i jego czytelnikom.

**Ад рэдакцыі:**

Дзякуем за навагоднія пажаданні і маем надзею, што высакародныя ідэі "Pojednania Europejskiego" з Гажова-Велькапольскага знойдуць у 1993 г. шматлікіх прыхільнікаў, чаго сабе і Аб'яднанню жадаем. Інфармуем таксама, што ў Беластоку выдаюцца два месячнікі на польскай мове прысвечаныя беларускаму і праваслаўнаму асяроддзю ў Польшчы. Першы з іх гэта "Czasopis" /нацыянальныя праблемы/, другі - "Przegląd Prawosławny" /рэлігійныя/.

Усіх зацікаўленых супрацоўніцтвам з "Pojednaniem Europejskim" просім пісаць на адрас:

Stowarzyszenie
„Pojednanie Europejskie"
ul. Strzelecka 9
66-400 Gorzów Wlkp.

**Дарагая „Ніва"**

Кожны, хто хоча мець Ваш тыднёвік, павінен зрабіць падпіску на 1993 г. Я ведаю са свайго дасведчання, што людзі не заўсёды пра гэта памятаюць, а часта думаюць так: „Ат, у кіёску куплю". З гэтымі газетнымі кіёскамі цяпер усяляк бывае — у адных „Ніву" прадаюць, а ў другіх — чамусьці не. А калі выпісаць, дык вядома, што яна пастаянна будзе трапляць у нашыя рукі. Таму прапаную Вам дапамагчы чытачам і надрукаваць, так як робяць гэта іншыя газеты і часопісы, паштовы бланк, на якім кожны можа ўплаціць грошы на рахунак „Нівы" і падпісацца на тыднёвік.

**АНДРЭЙ ГАЎРЫЛЮК**

**Ад рэдакцыі:**

Ваша пажаданне з'ўляецца для нас загадам. Гляньце на старонку 5 і 6.

# КАРОВА-П'ЯНІЦА

Прачытаўшы ў „Ніве" н-р 51 ад 20 снежня 1992 г. тэкст Васіля Кургановіча „Конь-п'яніца", я прыпомніла сабе расказ аднай жанчыны аб тым, як яе бацька купіў на базары карову-п'яніцу. Выглядала карова вельмі добра і стаяла вельмі спакойна. Прадавец нават не таргаваўся і прадаў танней, чым варта было.

Увечары надаілі многа малака, але ранкам нават маленечкай кварты не ўдалося надаіць: карова білася, што доступу да яе не было. Бацька ведаў, у чым рэч і сказаў, што яе напаілі і таму яна такая спакойная была на базары.

— Трэба і мне так зрабіць, — гаварыў ён маці, — напаю карову і прадам.

— Не прадавай яе тут, — прасіла гаспадыня. — Ты тут ніколі нікога не ашукаў.

— Не буду. Завяду на іншы базар, у другі горад, і там яе прадам.

Так і зрабіў. Прадаў гаспадар карову і яшчэ ўдалося пару злотых зарабіць.

Вось як на свеце бывае: не толькі людзі п'юць гарэлку і мяняюць тады свой характар. Жывёлу таксама гэтаму можна навучыць.

**АЎРОРА**

# КАМУ ДАЮЦЬ?

Пачуў я ад суседзяў, што грамадская дапамога (Opieka Społeczna) пры гмінай упраўе дае грашовыя запамогі найбяднейшым людзям.

Падаўся я ў Гмінную ўправу ў Міхалове. Было там многа людзей, якія ў чарзе, так як і я, чакалі на разгляд сваіх прашэнняў аб запамозе. Прыглядзеўшыся ім, я стаў упэўнены, што гэтую запамогу атрымаю. Калі прыйшла мая чарга, зайшоў я ў пакойчык, у якім сядзела пяць жанчын і падаў напісаную на паперы просьбу. Яны прачыталі яе і сказалі, каб я прыйшоў на другі дзень і прынёс з сабой кніжачку аплат за электраэнергію. Прыходжу з гэтай кніжачкай на другі дзень, а яны мне гавораць, што ўжо грошай няма, бо раздзялілі.

У гэтай „апецы" працуе дачка майго аднавяскоўца, які мае пяць кароў, ад якіх прадае малако, да таго ж яшчэ бярэ рэнту за зямлю, якую ў далейшым абрабляе. Ён атрымаў запамогу, таксама як і іншыя чатыры сем'і — усе яны абрабляюць свае гаспадаркі.

А я, інвалід другой групы, мне 66 гадоў, не маю ні сваякоў, ні дзяцей; жыву адзін, як калок. Рукі ў мяне хворыя, дроў нават не магу сабе нарубаць. І для мяне гміна не знайшла грошай, каб дапамагчы. Затое знайшліся грошы для п'яніц, якім пісьманосец прыносіць па чатырыста тысяч злотых на гарэлку. Такім гміна памагае.

**ДЗЯДЗЬКА ЗАХАР**

# РЭВЭ ТА СТОГНЭ БУГ ТА НАРВА

У сувязі з перадачамі на ўкраінскай мове, якія вядзе Юры Місіюк і Яўген Рыжык, мы атрымліваем шмат лістоў з пытаннямі, чаму мы не рэагуем на „нахабную, прымітыўную, антыбеларускую прапаганду", якая вядзецца ў Беластоцкім радыё нейкімі „нашымі хлопцамі". Перадача ад 20 снежня 1992 г. выклікала найбольшае абурэнне і прэтэнзіі да нас, чаму мы не адказваем на ўсялякія знявагі.

З жалем прызнаемся, што зрэдку слухаем перадачы, рэдагаваныя прадстаўнікамі „братняга" народу і не надта бачым сэнс весці палеміку з людзьмі, якіх немагчыма пераканаць, нават калі маем за сабой усе аргументы і стопрацэнтную рацыю. Дзеля таго яны там пастаўлены, каб гаварыць тое, што гавораць, а калі каго гэта ірытуе, то ў кожным радыёпрыёмніку ёсць такі механізм, які дазваляе спыніць тое, што табе не падабаецца.

У гэтым нумары „Нівы" змяшчаем толькі два, найбольш абгрунтаваныя, выказванні нашых чытачоў у сувязі з радыёперадачай, якая прагучала 20 снежня мінулага года. Адначасова просім пратэсты і заўвагі кіраваць у адрас Беластоцкага радыё. „Ніва" хоча займацца перш за ўсё беларускімі праблемамі а не палітычным фальклорам.

Рэд.

## У КРУЗЕ ПАРАНОІ

„Ніва" нішчыла ўкраінскі фальклор на Бельшчыне, праводзіла штучную беларутэнізацыю ўкраінскага насельніцтва" — стараўся 20 снежня 1992 г. на беларуска-польска-руска-ўкраінскай трасянцы даказаць „паэт" Іван Кірызюк у перадачы „Українська думка" па Беластоцкім радыё.

І. Кірызюк, як памятаю, друкаваў свае вершы ў „Ніве" ў сямідзесятых гадах. Былі яны пісаныя беларускай гаворкай з Бельшчыны, густа там было пра прыгажосць беларускай зямлі, мовы і культурнай спадчыны. Праўдападобна з увагі на невялікую мастацкую вартасць твораў Кірызюка і шавінізм (тады беларускі), які з іх выплываў, рэдакцыя адмовілася ў 1982 г. іх друкаваць. Апошні верш Кірызюка — ананімка — як я нядаўна даведаўся, надрукаваны быў у беларускім нелегальным выданні ў 1983 г. („Беларускія дакументы", сшытак н-р 2), у якім ён нешта расказваў пра рымскага папу. Палякам маглі тады валасы дыбам ставаць на галаве, чытаючы гэту паэзію, а я здзіўляўся, чаму сур'ёзныя людзі, якія рыхтавалі „Дакументы", надрукавалі такі верш, які, як мне тады здавалася, мог быць напісаны толькі рукою сяржанта бяспекі.

Калі І. Кірызюк, як беларускі паэт, не дачакаўся помнікаў, ён вокамгненна пераўтвараецца ў украінскага паэта і патрыёта. Змяніўся толькі галоўны вораг „вешчуна". Замест паляка стаў ім беларус, які, паводле яго, пра нішто іншае і не думае, як толькі знішчыць украінскі фальклор на Беласточчыне.

А што на гэта псіхіятрыя?

МІКАЛАЙ БУСЛОВІЧ

## УКРАЇНСКАЯ ДУМКА

У нядзелю 20 снежня 1992 г. раніцай Беластоцкае радыё вызмітавала чарговую перадачу на ўкраінскай мове. У ёй, як і ў папярэдніх, вялікая перавага агрэсіўнасці над усялякім здаровым толкам. Своеасаблівы толк тут ёсць, але аб гэтым потым.

Выступіў у перадачы лідэр нашых „украінцаў" Іван Кірызюк. Сказаў ён, што быў у Бельскім беларускім ліцэі, дзе чытаў свае вершы. Пахваліўся, што вершы гэтыя слухачам вельмі спадабаліся. Прыпомніў я сабе, што ў мае школьныя гады, калі замест настаўніка фізікі ці біялогіі прыходзіў нейкі дзядзя, які не адпытваў, а толькі штосьці мурлыкаў пад носам, гэта тадышняй моладзі было вельмі па душы. Сёння пэўна таксама падабаюцца такія сустрэчы з усялякімі „людзьмі пяра".

Выступіў таксама другі „падляска-ўкраінскі" лідэр — Юры Ігнацюк — „войт" бельскай гміны. Гэты высокаадукаваны чалавек гаварыў на вельмі прыгожай, „украінскай" мове, пэўна такой самай, на якой гавораць Краўчук і Чарновіл. Адны фразы — на чыстай польскай мове, перапляталіся з другімі фразамі, цяпер ужо з беларускай лексікай і сінтаксісам; і фанетыка была беларускай з адным, аднюсенькім выключэннем — замест „дз" рытар вымаўляў „д". Я, бывала, чытаў у арыгінале і „Кобзара" Т. Шаўчэнкі і лірыку І. Франко і не спадзяваўся, што ўкраінская мова зрабіла такі прагрэс і, адкінуўшы свае запарожскія выткі, радасна перабегла ў польска-беларускую какафонію.

Вядучы перадачу Ю. Місіюк гаварыў таксама пра адкрыццё школы ў Орлі і грозна крычаў прэтэнзіі, што не было там ніводнага ўкраінскага акцэнту. Калі гара не прыходзіць да Мухамеда, павінен ён падацца да гары. Бо хто ж меў арганізаваць гэты ўкраінскі акцэнт? Не будзе ж найважнейшы „атуман" пакідаць сваё бельскае крэсла і паніжацца прыездам у сваю „вітчізну". А можа яго там добра знаюць і на ўсялякі выпадак не паказваўся. А то яшчэ арлянцы прагналі б яго прэч, так як адцураліся ад яго ўкраінцы. Ляпей мурлыкнуць нешта ў мікрафон пра свае вершы, а ў Орлю выслаць свайго ватажку, які грозна патрасаючы мікрафонам прымусіць іх сказаць, што яны не беларусы а „ўкраінцы". „Украінства" гэтае апіраецца толькі на адзін гук „д"; усё астатняе і цэлая граматыка, і геаграфія, і гісторыя не маюць ніякага значэння. Маю, у сувязі з гэтым, для Ю. Місіюка вельмі перспектыўную прапанову. Не прымяняюць гука „дз" а прымяняюць „д" і немцы, і французы, і іспанцы, і англічане, і расейцы. Значыць, уся Амерыка — ад Аляскі да Патагоніі, — уся Аўстралія і ўся Еўропа, за выключэннем некалькіх вёсак за Рыбаламі і Трасцянкай — гэта ўкраінцы! А калі яшчэ не дзекаюць у Кітаі і ў Японіі?

Можна паставіць пытанне - а чаму Місіюк гойсае паміж Гайнаўкай і Бельскам сярод беларусаў, а не паедзе пад Бранск ці Цехановец, каб выясняць тамошнім палякам, што яны таксама „ўкраінцы"? Адказ здаецца быць простым: тамашняя шляхта добра яго вышляхтавала б, а і мацадаўцы Беластоцкага радыёвяшчання паказалі б яму дзверы. Стары рымскі прынцып „дзялі і пануй" вельмі прыдатны ў кожнай дзяржаве: і ў Брытанскай імперыі, і ў Югаславіі, і на ўсходніх акраінах Рэчыпаспалітай.

АЛЯКСЕЙ ЗАХАРЭВІЧ



## ЛЮБІМ МЫ ПОМНІКІ

З вялікім „захапленнем" прачытаў я ў „Ніве" (6.12.1992 г.) артыкул Васіля Петручука „Новаберазоўцам — ура!" Гэта было віншаванне жыхарам вёскі, якія паставілі помнік Маршалу Юзэфу Пілсудскаму. Шкада, што Васіль Петручук хворы і не можа прыехаць пабачыць яшчэ адзін помнік у гэтай вёсцы. Напісана на ім: „В ознаменование священного коронования их императорских величеств Николая Александровича и супруги его ея императорского величества Александры Федоровны. 14 мая 1896 г." Думаю, што і гэтаму помніку варта прысвяціць энтузіястычны артыкульчык. Абодва помнікі былі пастаўлены „ўдзячнымі" — а можа нават сказаць „шчыра ўдзячнымі" беларусамі. Але найбольш крывадушнае гэта тое, што пераконвалі і пераконваюць нас, што помнікі гэтыя ставілі жыхары з свае непрымушанай волі.

Абодва героі, якім новаберазоўцы паставілі помнікі, розніліся між сабою толькі тым, што адзін не ведаў беларускай мовы, а другі яе забыўся.

Васіль Петручук піша, што „помнік Маршалку належыцца хаця б толькі за тое, што асвяціў наш дурны народ". Некаторыя ўцякалі ў лясы, бо не хацелі вучыцца. А чаго яны ўцякалі ў тыя лясы? Мой нябожчык дзед сам навучыўся чытаць і пісаць, а тых, што хадзілі ў санацыйныя школы камуністы пасля вайны гналі на курсы ліквідацыі непісьменнасці.

Я не меў шчасця навучыцца беларускай мовы, бо такога прадмету не было ў маёй школе і таму ў беларускую „Ніву" пішу па-польску (*пацвярджаем гэта — рэд.*). І тады, і цяпер вялікая асветніцкая ідэя дзяржавы такая ж самая. За санацыі на 1000 беларускіх дзяцей-школьнікаў толькі 3 (0,3%) вучылася роднай мовы. Цяпер трохі ляпей, бо каля 4 % малады беларусаў мае кантакт з роднай мовай у школе.

Трэба рыхтавацца ставіць новыя помнікі.

ЮЛЬЯН КАЗБЯРУК



## ФАЛЬШЫВЫЯ ПАРТЫЗАНЫ

Пішу праўду, як некаторыя нашы "партызаны" рознымі штучкамі прысвоілі сабе гэтае званне. Прывяду для гэтага канкрэтны прыклад.

Каля дзесяці гадоў таму пачуў я, што ў адной з суседніх вёсак ёсць "партызан", які мае партызанскі білет. Даведаўшыся яго прозвішча, падумаў я, што гэта нейкі жарт. Я дасканала ведаў яго ваеннае мінулае: ён не цярпеў камуністаў і быў гарачым прыхільнікам акупацыйнай улады. Людзі аднак цвёрда настойвалі, што ён мае гэты партызанскі білет. Спаткаўшы яго, запытаў я пра гэты білет. Ён пацвердзіў пачутае мною - завёў мяне дадому, выцягнуў з сундука і працягнуў мне пажаўцелы ліст паперы. Была там завераная натарыусам заява, што наш герой у ваенныя гады быў сувязным савецкага партызанскага атрада імя Суворава, а таксама дастаўляў ружжо, прадукты і тытунь у гэты атрад. Заяву гэтую напісаў Дзямян Захожы. Убачыўшы маё здзіўленне, гаспадар-партызан, расказаў, як паявіўся гэты дакумент.

Дзямян Захожы, ураджэнец адной з суседніх вёсак, за санацыі займаўся крыху камуністычнай дзейнасцю. Калі восенню 1939 года прыйшлі саветы, ён стаў іх адданым служакам: адпраўляў на Сібір сваіх аднавяскоўцаў - "кулакоў". Добра, відаць, уеўся сваім суседзям у пячонкі, бо калі летам 1941 года ўспыхнула вайна, ён, пабаяўшыся іхняга самасуду, уцёк з вёскі. Пайшоў у лес і там заснаваў нейкі атрад: ці гэта была банда, ці партызанка - не нам судзіць. Пасля вайны Дзямян Захожы выехаў у СССР: у роднай вёсцы людзі не забылі ягоных "заслуг". Аднойчы Дзямян Захожы наведаў родныя старонкі. Запрасілі яго партыйныя ўлады, бо быў ён патрэбны для афармлення партызанскіх білетаў партыйнай свіце. У роднай вёсцы ніхто з ім не захацеў нават гаварыць і ён падаўся ў суседнюю, да свайго калегі з "кавалерства" - майго размоўцы. Гаспадар прыняў Захожага, паставіў нават на стол паўлітроўку. Падчас гутаркі Захожы запрапанаваў, што можа прыдбаць яму партызанскі білет. Гаспадар прыняў прапанову - яго жонка часта хварэла, лячэнне вымагала ад селяніна немалых грошай. Для ўладальніка партызанскага білета лячэнне было бясплатным. Наступнага дня паехалі яны ў Бельск да натарыуса, дзе і афармілі ўспомненую раней заяву. Знаёмы мой білетам гэтым занадта не карыстаўся - меў свой гонар. Гаварыў ён, што каб у 1956-57 г.г. уступіў у партыю і стаў гарачым яе пахлёбнікам, то атрымаў бы вялікую персанальную пенсію, замест звычайнай сялянскай. Сказаў ён мне таксама, што Захожы не астаўся ў даўгу ў тых, што яго запрасілі: партыйцам, якія падчас вайны сядзелі на печы, аформіў партызанскія спраўкі.

МІКАЛАЙ ПАНФІЛЮК

## КАБ ПРЫНАМСІ БЫЛА НАДЗЕЯ

У канцы года людзі заўсёды пачыналі рабіць баланс апошніх дванаццаці месяцаў і ставіць прагноз на будучыню. Сёння зрэдку можна спаткаць чалавека, які сказаў бы: „ёсць добра, а думаю, што будзе яшчэ ляпей". Гаспадар наракае, што няма дзе прадаць свае прадукты, рабочы, што няма за што іх купіць, багатыя, што плацяць вялікія падаткі, а пра беспрацоўных ляпей і не ўспамінаць. Словам, у эканоміцы — пачуццё татальнай безнадзейнасці.

У палітыцы, аднак, нешта змянілася. За ўсходняй мяжой на нашых вачах нарадзілася незалежная Беларусь, пра якую марылі дзесяткі пакаленняў і мільёны беларусаў. Хаця дзіця гэтае яшчэ вельмі слабое, але гараскопы прадвяшчаюць, што жыць будзе. У Польшчы, разам з дэмакратыяй і гаспадарчым крызісам паявіліся, як заўсёды ў такіх умовах, групы шавіністычных параноікаў, а тыя, якія яшчэ пару гадоў таму назад гаварылі пра талерантнасць і роўныя правы ўсім грамадзянам, у рэчаіснасці аказаліся героямі нейкага гратэску, які, на жаль, называецца нашым штодзённым жыццём.

1992 год беларусы ў Польшчы пачалі ад сварак усіх з усімі. Калі, аднак, ужо апалі эмоцыі і стварыліся арганізацыйныя асновы да супрацоўніцтва ўсіх беларускіх асяроддзяў, пачалося шаленства бэгэкатоўскіх дзеячаў з камп'ютэрамі. Беларусы зноў сталі займацца сабою. Справы асветы, культуры, эканоміі — у сапраўднасці нашай будучыні — зышлі на далёкі план.

Найгоршае аднак, што магло нас спаткаць, гэта паралізуючы песімізм. Ужо ніхто і нікому не верыць. Ніхто і нічога не спадзяецца. Людзі жывуць з дня на дзень і чакаюць чарговых зменаў. Дэмакратыя аказалася толькі пустым словам, якога сэнсу ў сапраўднасці ніхто не разумее. Ніхто не ведае, якая павінна быць новая рэчаіснасць. Усе чакалі прыходу новых сакратароў, якія скажуць як жыць, як стаць багатым, прыгожым і шчаслівым. У вачах большасці людзей прыйшлі толькі ашуканцы і махляры.

Істота дэмакратыі заключаецца ў тым, што няма ні сакратароў, ні ніякай вядучай сілы, ёсць толькі грамадства, якога члены дагаварваюцца паміж сабою, хто і што мае рабіць і чым мае займацца. Дэмакратыя — гэта гатоўнасць выслухаць другога, прызнаць яму рацыю, улічыць яго інтарэс.

Беларусам не варта чакаць яшчэ год на прыход некага, хто за нас падумае, арганізуе, зробіць. Перш за ўсё трэба наканец паверыць у сябе і ў свае сілы. Да гэтага патрэбная ёсць толькі надзея і добрая воля. Мець надзею — гэта значыць зрабіць крок у лепшую будучыню.

Гэтай апошняй з цэлай душы жадаю чытачам „Нівы" ў Новым годзе.

ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ

# ГОРАД КЛЯШЧЭЛІ

*/пачатак у 50 нумары/*

**III. "ЗАЛАТЫ ВЕК"**

З 1533 года Кляшчэлі сталіся асабістай уласнасцю каралевы Боны. Канкрэтная рука гэтай тэмпераментнай дамы палажыла тут свой выразны адбітак. Апрача заснавання касцёла ў 1544 г. Бона пачала актыўныя дзеянні ў кірунку эканамічна-гаспадарчага развіцця горада. Да Кляшчэль былі далучаны вёскі Дабрывада /на рэчцы Добрая Вада/, Косная /у 1661 г. Косная - Дашэвіцы/, Нурэц /ля вытокаў Нурчыка - сёння вёска Чаромха/, Бабічы на Нурцы ды Трубянка.

Перад 1560 г. праводзіцца тут валочная памера. Па загаду караля пачаў яе Андрэй Дыбоўскі, а скончыў у 1563 г. Станіслаў Дзевялтоўскі. Памера дакладна акрэсліла арэал зямель прыналежных гораду і яе падзел ды межы. Горад быў распалажаны агульна на 27,2 моргах зямлі. У час памеры былі вызначаны новыя пляцы і вуліцы. Паводле "рэестра" валочнай памеры з 1560 г. у Кляшчэлях было 15 вуліц. На вуліцы Нараўскай было 56 пляцоў, на Асовай - 24 пляцы, на Камянецкай - 119, на Бельскай - 30, на Рэпчыцкай - 10, на Казловай - 28, на Мячковіцкай - 12, на Зэзуліцкай - 58, на Залескай - 25, на Хадзіевіцкай - 32, на Застаўскай - 30, на Мікіцікай - 12, на Новай - 27, на Багенскай - 32, на Заблоцкай - 37 пляцоў. Немалая колькасць з усіх 554 пляцоў у горадзе была звычайнымі агародамі. Апрача таго Кляшчэлям належала 150 валок зямлі. Гэта прадвызначала сельскагаспадарчы характар заняткаў насельніцтва.

У прыпісаных Кляшчэлям "гарадскіх" сёлах лічылася агулам 214 валок зямлі: у Дабрывадзе - 60, Нурцы - 59, Коснай - 42, Бабічах - 30, Трубянцы - 25 валок. Гэтае апошняе сяло было распаложанае найбліжэй Кляшчэль, да 1616 года ўжо не існавала, /да сёння захавалася толькі назва ўрочышча/. Землі, прыналежныя Кляшчэлям і іх "гарадскім" вёскам, вылучаліся сваёй малаўраджайнасцю /за выключэннем зямель Нурца/Чаромхі/ ды Коснай/. Таму апрача земляробства насельніцтва займалася рамяством і гандлем.

Паводле "Люстрацыі" ад 1576 года у Кляшчэлях было 20 рамеснікаў, а ў 1580 г. было іх ужо 32, між іншым, пекараў, краўцоў, шаўцоў, кушнераў, кавалёў і печнікаў. Некаторыя займаліся таксама бандарствам, ганчарствам. У 1576 г. тут знаходзіліся 32 карчмы піўныя і мядовыя і столькі гарэлачных.

У Кляшчэлях у XVI ст. шырока была разгорнута перапрацоўка сельскагаспадарчай прадукцыі, галоўным чынам скур і збожжа. На ўсёй кляшчэляўскай тэрыторыі на рэках Нурэц, Елянка /Арлянка/ і Добрая Вада ў 1576 г. знаходзіліся 23 млыны. Найбольшыя даходы мелі млынары Саўка Чыжэвіч ды Панас Бальтовіч /два млыны на Нурцы/. Варта адзначыць, што апрача падаткаў кляшчэлеўскія мяшчане былі абавязаныя працаваць на замку ў Тыкоціне.

У II пал. XVI ст. горад развіваўся вельмі памысна. Драўлянае будаўніцтва патрабавала шмат матэрыялаў. Паводле валочнай памеры Кляшчэлям было надзелена 18 валок лесу /бору/, які знаходзіўся на поўдзень ад сяла Нурэц /Чаромха/ і межаваў з Берасцейскім паветам.

Аднак жа не ўсе рашэнні каралеўскіхураднікаў былі згодныя з інтарэсамі мяшчан. Так было і з валочнай памерай. Зімою 1568 г. у каралеўскую рэзідэнцыю ў Кнышыне адпраўляецца дэлегацыя кляшчэлеўскіх мяшчан, якая скаржыцца каралю Жыгімонту на несправядлівыя падаткі. Кароль, разгледзеўшы справу, пацвярджае валочную памеру ды піша ўсім кляшчэлеўцам ліст, у якім загадвае "/.../ О чом мы перво сего за жалобою их для достаточного в той речи постановения посылали есмо дворенина нашого Андрея Дыбовского, который так зехваши и нивчом правила местского не нарушаючи, але уваживши то, жебы сума пенезей чиншовых, котоpя со всехъ волокъ оного места клещелеского до скарбу нашого приходитъ зменшона небыли, такъ постановилъ ижъ хто в добрых грунтах влоки держитъ, тотъ з добрых грунтовъ чинш больший, а тые которые грунтъ подлый под собою маютъ меншый чинш, платити мели /.../".

Тры дні пасля напісання гэтага ліста здарылася нечаканае. Кароль Жыгімонт зацвярджае арандатарам Кляшчэль Станіслава Хандзынскага. За гэтае "дабрадзейства" С. Хандзынскі пазычыў каралю 5000 коп літоўскіх грошаў. Да кляшчэлеўскай маёмасці кароль далучае пяць сёл з Бельскага старастваа: Дубічы, Абыхаднік /Грабавец/, Чохі, Елянку, Сухую Волю ды Руду Паўла Рудніка.

Новы арандатар, падкаморы драгіцкі, паляк і каталік не вельмі спадабаўся кляшчэлеўскаму самаўраду і мяшчанам, у знакамітай большасці праваслаўным русінам. Вядома, С. Хандзынскі за падтрымкай Боны фаварызаваў рымска-каталіцкі касцёл і яго місію ў горадзе.

... Адыходзіць дынастыя Ягелонаў... Яшчэ перад 1576 г. Кляшчэлі пераймае сын С. Хандзынскага - Пётр. Пры ім мястэчка перажывае далейшы буйны росквіт. У 1578 г. кароль Стэфан Баторый дае Кляшчэлям прывілею на свабодны гандаль соллю. У 1581 г. каралева Анна дазваляе будаваць ратушу з вагаю і цырульняй ды весці ў ратушы гандаль. Прысвойвае таксама гораду герб.

Аднак жа адносіны паміж мяшчанамі ды Пятром Хандзынскім, які з 1580 г. стаў старастам, не складаліся найлепш. Стараста злоўжываў уладай, не памятаючы пра правы дадзеныя гораду каралямі. У 1581 г. кляшчэлеўскія мяшчане на рукі каралевы Анны пасылаюць скаргу на свайго арандатара. Прадстаўляюць яны шматлікія закіды ў няправільным кіраванні гарадскімі справамі. Скардзяцца, што стараста Хандзынскі бярэ чынш з зямель, якія ўжо ім не належаць ды абкладае іх вялікімі падаткамі ад дамоў і агародаў. Насуперак каралеўскай прывілеі стараста абмяжоўвае даходы багацейшых млынароў ды доступ мяшчан да бору.

Каралева Анна, хочучы выправіць крыўды кляшчэлеўцаў, пацвярджае ўсе дадзеныя ім правы і каралеўскія прывілеі ды перасцерагае старасту перад злоўжываннем уладай.

У 1580 годзе Кляшчэлі налічвалі 2310 жыхароў і пасля Бельска з'яўляліся другім па велічыні горадам Падляшша. За часоў караля Жыгімонта III Вазы /1566-1632/ горад перажывае далейшы росквіт. У 1616 г. тут працуе 82 рамеснікі /7-8 % усяго дарослага, працаздольнага насельніцтва/. У гэты час гандлем займаецца 43 чалавекі. Горад асабліва ажыўляўся ў кожны панядзелак, у час штотыднёвых кірмашоў. Гадавыя кірмашы адбываліся тры разы: на св. Мікалая, св. Юрыя ды Пакрову.

І так, жыццё мяшчан у XVI ст. і I пал. XVII ст. праходзіла паміж буднымі ды святочнымі днямі, паміж працаю і праблемамі ды адпачынкам і вяселлем.

Але былі ў гэтым "залатым веку" і моманты, якія асабліва патрывожылі іхні быт. Пасля 1596 г. пастулова пачынаюцца нязгоды, нябачна засейваецца варожасць... нават паміж суседзямі.

10 красавіка 1631 г. насельніцтвам ускалыхнула вестка аб пажары гарадской ратушы. Гэтае здарэнне было перасцярогай для ўсіх. Амаль праз пакаленне перасцярога збылася...

*/працяг будзе/*

**Р.С. і М.С.**

## ШУКАЕМ ЗДЫМКІ БЕЛАВЕЖСКАЙ ЦАРКВЫ

Праз два гады праваслаўная Святамікалаеўская царква ў Белавежы будзе святкаваць стагоддзе свайго існавання (яна была пасвечана 22 студзеня 1895 г., паводле старога стылю). З гэтай нагоды навуковы працаўнік Белавежскага нацыянальнага парку, а заадно і любіцель фатаграфіі, Анджэй Кэчынскі, абавязаўся наладзіць выстаўку архіўных здымкаў храма і наогул сцэнаў з рэлігійнага жыцця яе вернікаў. Думка гэтая была адобрана настаяцелем белавежскага прыхода, а. Сяргеем Корхам.

У сувязі з гэтым, што аўтар падрыхтоўваемай выстаўкі не мае яшчэ адпаведнай колькасці здымкаў, просіць усіх тых, хто мае ў сваіх сямейных альбомах старыя фатаграфіі на гэтую тэму, даставіць магчымасць іх рэпрадуктаваць. Спадар А. Кэчынскі завярае вярнуць пазычаныя здымкі іх уласнікам. Кантакт з ім можна наладзіць у месцы працы (Маршалкоўскі дом) або на месцы пражывання (гасцініца „Іва").

Здымак, які публікуем, паходзіць са збору фатаграфій Надзеі і Віталя Шпаковічаў з Белавежы. Ён быў зроблены яшчэ ў царскія часы, гэта значыць да выбуху I сусветнай вайны. Нам цікава, ці хтосьці з белавежцаў мог бы назваць прозвішчы людзей, асабліва свяшчэннаслужыцеляў, якія знаходзяцца на гэтым здымку.

**ПЁТР БАЙКО**





**Pokwitowanie dla wpłacającego**

zł ____________________

____________________
słownie złotych

____________________
imię, nazwisko, adres wpłacającego

____________________

Na rachunek:
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**
**Białystok, ul. Suraska 1**
**Bank PBK SA, I Oddział Białystok**
**370406-207917-132**

Data

Opłata
zł______

podpis przyjmującego

**Odcinek dla posiadacza rachunku**

zł ____________________

____________________
słownie złotych

____________________
imię, nazwisko, adres wpłacającego

____________________

Na rachunek:
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**
**Białystok, ul. Suraska 1**
**Bank PBK SA, I Oddział Białystok**
**370406-207917-132**

Data

Opłata
zł______

podpis przyjmującego

**Odcinek dla poczty**

zł ____________________

____________________
słownie złotych

____________________
imię, nazwisko, adres wpłacającego

____________________

Na rachunek:
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa"**
**Białystok, ul. Suraska 1**
**Bank PBK SA, I Oddział Białystok**
**370406-207917-132**

Data

Opłata
zł______

podpis przyjmującego

## ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Калі хочаце, каб „Ніва" пастаянна трапляла ў вашу хату, падпішыцеся на яе ў рэдакцыі. Побач змяшчаем бланк, пры дапамозе якога можаце аформіць сабе падпіску. На гэтым бланку можаце таксама заказаць „Ніву" для сваіх родных або знаёмых за мяжой. Хопіць толькі выразаць бланк і чытэльна яго запоўніць.

Кошт падпіскі ў I квартале 1993 г. (разам з коштамі высылкі) такі:
— у Польшчы — 52.000 зл.,
— на Беларусь — 71.500 зл.,
— авіяпоштай у Еўропе — 156.000 зл.,
— авіяпоштай у ЗША і Канаду — 201.500 зл.,
— авіяпоштай у Аўстралію — 292.500 зл.

# ПАДАРУНАК ДЛЯ „НІВЫ”

20 снежня 1992 г. у рэдакцыю завітаў добра вядомы нашым чытачам бельскі карэспандэнт „Нівы” інжынер Барыслаў Рудкоўскі. Спадар Барыслаў прынёс нам незвычайны падарунак — карту праваслаўнага прыхода ў Кленіках, выкананую піраграваюрай. Для тых, хто не ведае, што такое піраграваюра, паясняю, што так называецца рысунак, зроблены распаленым металічным вастрыём на драўлянай дошцы. Зрабіць карту нейкай тэрыторыі можа амаль кожны інжынер або геадэзіст, але выканаць яе на дрэве, на дадатак распаленым дроцікам і да таго захаваць усе дэталі, трэба цярплівасці спадара Рудкоўскага.

Інжынер Б. Рудкоўскі выконвае гэтай тэхнікай таксама партрэты. Вобраз айца Рыгора Сасны з Рыбалаў зроблены піраграваюрай, паказвае, здаецца, не толькі воблік чалавека, але таксама і прыкметы яго характару.

Карта Кленік і ваколіцы выкананая спадаром Рудкоўскім захоўвае назвы рэчак і вёсак такімі, якімі яны былі некалькі стагоддзяў таму назад. І гэта ёсць вялікі ўклад інжынера Барыслава Рудкоўскага ў вяртанне нашай забытай гісторыі.

За падарунак шчыра дзякуем. Ніжэй змяшчаем яго паменшаную выяву. Арыгінальная карта мае размеры 47 x 34 см.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**




# КАЛЯДА, КАЛЯДА

Эх, хлапечыя гады! З тае пары, калі я са сваімі сябрукамі апошні раз калядаваў у вёсцы, мінула ўжо, без малога, гадоў дваццаць. Сённяшнім часам, калі наведваю на Каляды сваіх бацькоў, у вёсцы таксама калядуюць. Але з таго часу, калі я калядаваў, вёска настолькі апусцела ў школьную моладзь, што ледзь яе хапае на адзін гурт калядоўшчыкаў.

Калядаваць дабіраліся мы па ўзросту. Найчасцей атрымлівалася яно так, што разам хадзілі хлапчукі з аднаго класа - часамі толькі прыставаў да нас хто-небудзь на год малодшы. Парадак быў, адным словам, іерархічны. Старэйшыя хлопцы ходзяць разам, асобна засранцы, а яшчэ асобны гурт камплектавалі дзяўчаты. Такім чынам праз вёску правальвалася сама менш тры гурты калядоўшчыкаў, бо бывала і так, што вёску наведвалі калядоўшчыкі з суседства.

Звязда ў вёсцы была адна. Даўным даўно зрабіў яе нейкі адмысловы майстар з рэшата. І звязда гэтая пераходзіла з пакалення на пакаленне калядоўшчыкаў. Як прынцып, калядаваць з ёю хадзіў заўсёды гурт стрэйшых хлопцаў. Дзяўчаты ды малодшыя хлопцы напэўна зайздросцілі звязды, але што ж зробіш - парадак здаўна быў заведзены, трэба было ім з гэтым змірыцца.

Увесь тыдзень - ад Новага года /паводле новага стылю/ да праваслаўных Калядаў - праходзіў нам на падрыхтоўцы. Спярша трэба было адшукаць звязду. Мінуў год часу і хто гэта ўжо памятаў, у чыёй каморцы мы яе пакінулі год таму. Знайшоўшы звязду, згодна сцвярджалі, што трэба аднавіць усе ўпрыгожанні, якія альбо пабляклі праз год, альбо проста сыпаліся ўжо ад старасці. Упрыгожванне зводзілася да таго, што трэба было абадраць са звязды старую бібулку ды выклеіць яе новай. Патрэбныя дзеля гэтага былі два віды бібулкі - гладкая, каб выклеіць "калясо" /прадавалі яе ў лістках/ ды моршчаная, на фрэнзлі /прадавалі яе ў скрутках/. Тая моршчаная каштавала, здаецца, 2 злоты і 25 грошаў. Неяк так. Пяць грошаў у той час амаль зусім выйшлі ўжо з ужытку. Моршчаная бібулка была гэта, бадай, апошняя рэч, якую мы куплялі ў краме і разам з рэштай атрымлівалі цукерак-два /наконт гэтых пяці грошаў/. Праз некалькі вечароў да Калядаў, як след упэцканыя клеем з жытняй мукі, рыхтавалі мы звязду. Нарэшце маці аднаго з нас, у хаце якой мы збіраліся, пыталася: "А калядкі вы ўжо вывучылі?" А хто тут думаў пра калядкі, калі і без гэтага хапала клопату. Трэба ж было завесці парадак - хто трымае касу, а хто круціць звяздою. Пасля гэтага стараліся мы вывучыць дзве калядкі: "Раждажство Хрыстова" ды "Неба і зямля". Найчасцей аднак атрымлівалася так, што ніводная з іх не ўмелі як трэба.



Не скажу, што гэта нам калядаваць перашкаджала.

На другі дзень Калядаў ішлі мы калядаваць. Спярша наведвалі хутары. Калі траплялася лютая зіма, брылі мы па калена ў снезе ды спрачаліся, хто гэтым разам мае круціць звязду. Раней заведзены парадак мяняўся дзесятак разоў. "Мы прыйшлі Хрыста хваліці, ваш дом весяліці! Можна спяваць, ці не?" - грымелі мы ў адзін голас, зайшоўшы ў хату. "Можна, можна" - адказвалі гаспадары. Ну і мы спявалі. Ой, па-рознаму гэта нам выходзіла. Часамі цялкам складна, а часамі кожны на свой голас. Часамі збіваліся ўсярэдзіне ды пачыналі ад пачатку, а часамі пераскоквалі з адной калядкі ў другую. Але ўсе гэтыя вакальныя недахопы выпраўлялі мы ахвотаю спяваць. "Добра спяваеце" - хвалілі гаспадары ды давалі нам па пару злотых, а вельмі часта, калі ў каго былі якраз госці, садзілі нас за стол ды частавалі кавалкам каўбасы. Трапляўся і кілішак самагонкі.

Абыйсці ўсю вёску, здавалася б усяго трыццаць двароў, не так хутка давалася. Канчалі калядаваць на змроку. Звальваліся ў хату аднаго з нас ды дзялілі закалядаваныя грошы. Доўга-доўга пасля Калядаў кожны з нас меў гэтых пару злотых на ўсялякія ласункі.

Сёння ўсе мы, і я, і мае сябрукі-калядоўшчыкі, жывем у гарадах. Непазбежна набліжаемся да трыццаткі. Шмат хто гадуе ўжо сваіх дзяцей. На Каляды едзем аднак да сваіх бацькоў на вёску. Вазем туды з сабою свае дзеці. Калі зойдуць у хату яшчэ калядоўшчыкі ды пачнуць спяваць, мы запалім на ёлачцы лямпачкі ды возьмем на калені свае дзеці, каб і яны паслухалі калядку ды адчулі тую радасць, якая сталася нашым удзелам.

**АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК**
**Фота М. Гайдука**



## ПАПРАЎКА

У 49 нумары „Нівы” ад 6 снежня 1992 г. у артыкуле Міколы Давідзюка „Яшчэ адзін наіўны” з-за карэктарскага недагляду была дапушчана памылка. Прыведзеная ў тэксце цытата паходзіць z **„Gazety Polskiej”**, а не з ***„Gazety Wyborczej”***.

Аўтара і чытачоў за памылку сардэчна перапрашаем.

**РЭДАКЦЫЯ**

**Валі ЖЭШКА** сардэчна дзякуем за памяць і святочны падарунак. Жадаем Вам усяго найлепшага ў Новым годзе, а перш за ўсё прыемных успамінаў з Беласточчыны падчас чытання „Нівы”

**Рэдакцыя**



| | | |
|---|---|---|
| Imię i nazwisko prenumeratora, adres | Imię i nazwisko prenumeratora, adres | Imię i nazwisko prenumeratora, adres |
| Prenumerata na ...... kwartał ❑ | Prenumerata na ...... kwartał ❑ | Prenumerata na ...... kwartał ❑ |
| w ilości ..... egz. | w ilości ..... egz. | w ilości ..... egz. |
| Kontakt w Polsce (dotyczy prenumeraty zagranicznej) | Kontakt w Polsce (dotyczy prenumeraty zagranicznej) | Kontakt w Polsce (dotyczy prenumeraty zagranicznej) |

 

АЛЯКСАНДР ВЯРБІЦКІ

# СТОГ САЛОМЫ БЕЛАРУСКІХ КАПІТАЛІСТАЎ

Аўтобус ціха, аднастайна шумеў, едучы па лясной, манатоннай баброўніцкай шашы. За Віламі з'ехаў ён на асфальт, шум зрабіўся цішэйшым і ў разгойданым на раскінутых паміж Займай і Пярэймай узгорках аўтобусе ахапіла мяне соннасць. Не знаю, доўга я драмаў, ці не доўга, калі прысніўся мне вось такі дзіўны сон.

Сніцца мне, што я - 72-гадовы селянін і сяджу ў вёсцы на лаўцы з нейкім вусатым мужчынам у салдацкай форме. Прыглядаюся я да яго і бачу, што гэта сам Іосіф Вісарыёнавіч Сталін. І гаворыць ён мне такія словы:

- Няма цяпер аніякага парадку. Кожны робіць што хоча і як хоча. Навыдумоўвалі ўсялякіх тэлевізій і газет, а там розныя авантурнікі гавораць і пішуць, што каму ўздумаецца. Адны гавораць і пішуць так, другія іначай; не магу разабрацца ва ўсім гэтым. Дайшло нават да таго, што не толькі перасталі глушыць "Вольную Еўропу" і "Свабоду", то яшчэ і ў нашых радыёперадачах гавораць такое, за што ў мой час размаўляла б з імі спецтройка. Ды і радыёстанцый гэтых за многа, хапіла б адной. Дзе ж тут будзе нейкі аўтарытэт ці пашана для ўлад?

- Можа ўлады гэтыя самі дабіваліся б пашаны ў людзей, - нясмела запрапанаваў я.

- У ніякім выпадку! - выцадзіў праз зубы мой субяседнік. - І павінна быць толькі адна ўлада, а не мноства іх, а пашана для гэтай улады павінна быць самым галоўным абавязкам кожнага чалавека! Я да гэтых спраў ставіўся вельмі сур'ёзна: калі хто-небудзь паспрабаваў шушукнуць хаця што-небудзь, мае людзі адразу забіралі такога ў піянерскі лагер, дзе такі авантурыст адукаваны быў на піянера асваення тайгі і тундры. Асвойвалі яны пасля гэтыя паўночныя тэрыторыі з поўнай адданасцю сіл, а любоў іх да гэтых зямель ставалася так вялікай, што мільёнамі асталіся там назаўсёды. І любілі мяне за гэта. І шанавалі. Вершы пра мяне пісалі, а не нейкую мадэрнісцкую дурніцу, як цяпер. І газеты, якіх было толькі дзве ці тры, таксама ўсхвалялі маю мудрасць. І навука была толькі адна - гісторыя УКП/б/, а не мноства інфарматык ці сацыялогій, як цяпер. Народ пра мяне песні спяваў, а не нейкія там рамансы пра каханне ці расстанне. Ва ўсіх дамах былі мае партрэты, а не нейкія нацюрморты, пейзажы ці іншыя абстракцыі. Удзячны народ ставіў мне помнікі і ў гарадах, і ў вёсках, і ў лясах, і сярод палёў.

Мой субяседнік уздыхнуў глыбока, быццам хацеў набраць больш паветра да далейшай прамовы, хвіліну штось думаў і ў тым часе вецер сарваў з яго парык, вусы разлезліся аж на бараду і ўбачыў я перад сабою лысавага чалавека ў скромным касцюме. Прыглянуўся я яму і ўбачыў, што гэта сам Уладзімір Ільіч Ленін. І кажа ён мне наступнае:

- Наша грамадства хворае, сапсаванае гэтай праклятай цывілізацыяй. Панараблялі ўсялякіх непатрэбных і шкодных рэчаў. Усё гэта трэба разбурыць і на яго месцы пабудаваць новы парадак. І мае быць толькі адна ўлада, і ніякай другой. Возьмем для прыкладу такую царкву: карысці ад яе ніякай, затое ж шкоды велізарныя - падрывае яна мой аўтарытэт. Выкараню я гэтае пустазелле, а на яго месца насаджу свой культ. І ўсе будуць атэістамі, і верыць будуць толькі ў мяне. Або такія вясковыя гаспадары: дбаюць толькі пра гэтыя свае гаспадаркі, а хто сядзіць на Крамлі, гэта ўжо іх не абходзіць. Трэба навучыць іх парадку і павыганяць іх з іхніх гаспадарак, дый пазаганяць іх у калгасы; у лагеры. І забраць ім усялякую ўласнасць: дамы, каровы, свінні, падводы. Перастануць яны займацца гэтай сваёй дурніцай. Тое ж самае трэба парабіць у гарадах і мястэчках - пазабіраць усім іхнюю маёмасць.

- То што яны стануць рабіць? - пацікавіўся я.

- Яны ў святочныя дні - а гэта будуць ужо зусім новыя святы - будуць хадзіць на святочныя дэманстрацыі і насіць чырвоныя сцягі. У будзённыя ж дні будуць удзельнічаць у партыйных сходах ды ва ўрачыстых акадэміях. І праслаўляць будуць сваіх правадыроў. Усе будуць належаць да маёй партыі. А маладыя людзі будуць вучыцца, вучыцца, вучыцца.

- Чаго?

- Марксізму-ленінізму.

- А працаваць хтосьці будзе? - спытаў я.

- Працаваць будуць машыны! І рабіць яны будуць толькі тое, што трэба. І нічога больш! А чаго нам трэба? Трэба гармат, танкаў, снарадаў, калючага дроту і кулямётаў. Каб бараніцца ад ворагаў. А ворагаў гэтых будзе цэлая процьма. Ненавідзець нас будуць з зайздрасці, з-за шчаслівага жыцця і светлай будучыні.

- А людзі будуць есці? - пацікавіўся я.

- Забяспечым людзей перш-наперш спажывецкай праграмай. На палях пасадзім дрэвы, на якіх будуць расці ананасы, бананы, бульба і кукуруза. А хлеб і булкі будзем прывозіць з Канады.

Мой субяседнік заглядзеўся дзесьці далёка, далёка, быццам шукаючы ў хмарах гэтую адлеглую краіну. Яго задуманы твар зрабіўся васкападобным, як у маскоўскім маўзалеі, адпала ад яго барада а праз хвіліну подых ветру абарваў і вусы. Гэты васкова-каменны твар выдаўся мне нейкім добра знаёмым. Прыглянуўся я яму і бачу, што гэта не хто іншы як сам 62-гадовы Алесь Барскі ў нейкім зношаным фраку. Ад нечаканасці здалося мне, што я маладзею і праз хвіліну быў я ўжо 67-гадовым селянінам. Пасядзеў я яшчэ хвіліну і, не меўшы вялікай надзеі на размову з так важнай асобай, прыпадняўся я, каб перасесці на другую лаўку. Але абсеў я назад, бо мой новы сусед, звяртаючыся быццам бы да мяне, а можа да кагосьці іншага сказаў:

- Няма парадку цяпер аніякага. Маладыя не шануюць старых зусім. Вось калі я быў малады, я шанаваў старэйшых: Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна, Берута, Хрушчова. Шанаваў я іх і вучыўся ў іх. І ўвесь час марыў, каб быць такім як яны. Ну і не магу сказаць, што не стараўся. Памаленьку, ступенька па ступенцы падымаўся я ўверх. І ў канцы-канцоў мае мары збыліся - мяне абралі Найважнейшым беларусам. Пэўна хтось там думае, што якісь камітэтчык прывёз мяне на выбары ў валізцы. Не - выбралі мяне дэмакратычна!

- Немцы ў 1933 годзе выбралі свой Рэйхстаг таксама дэмакратычным спосабам, - асмеліўся заўважыць я.

- А цяперашнія малакасосы зусім не шануюць мяне, - працягваў не звяртаючы на мяне ўвагі. - Дасі такому ў морду, дык ён да бойкі лезе! Не шануюць Найважнейшага і яшчэ маюць нахабнасць мяне крытыкаваць! А ўсё гэта праз тую дэмакратыю і яўнасць. Усё гэта праз Гарбачова! Разваліў ён такую вялізную дзяржаву - апору сапраўднага парадку. Савецкі парадак - вось гэта быў парадак! Усе там у адзіным страі шанавалі і выхвалялі Найважнейшага. І мовы не было, каб хтосьці гаварыў пра яго адстаўку, так як гэта робяць некаторыя нашыя авантурнікі ў адносінах да мяне. Але мой Прэзідыум, як узорнае палітбюро, выконвае кожнае маё пажаданне. І я не здамся. Я буду непахісна, як Брэжнеў, як Чарненка, стаяць на сваім пасту і служыць справе!

- Якой справе? - спытаў я.

Але мой самабяседнік не звяртаў і надалей увагі на мае словы і працягваў:

- Распусціліся гэтыя зялёныя таўкачы зусім. І бесцырымонна лезуць усюды: то ў школы, то ў вузы, то ў рэдакцыі паналазіла іх. А павінны яны папрацаваць, добра папрацаваць, аж да адыходу на пенсію. А тады хай ідуць хто-куды: адны хай ідуць у школы, другія ў вузы, іншыя ж яшчэ хай там штосьці і ў газету напішуць. Ну, з такімі пажылымі людзьмі то і я мог бы нават пагаварыць. Я хіба ім крыху дапамагу, каб хутчэй зразумелі, хто яны такія. У мяне ёсць адзін знакаміты сродак, каб гэтым зялёнаносым паказаць іхняе месца. Гэта гной. Так, так, гной — па-лацінску гнаятус. Я вельмі люблю раскідаць гной: направа, налева, навокал!

Ён падняўся, налажыў цыліндрычны капялюш, у якім выглядаў, як амерыканскі імперыяліст на старонках савецкіх газет і падаўся ў бок воза, на які хтосьці накідаў гной. Навокал воза, на нейкіх камп'ютэрах, сядзелі якіясьці знаёмыя асобы. Наш Найважнейшы падыйшоў да іх і сказаў:

- Гною! Нам трэба як найбольш гною! Я хачу накласці цэлы воз гною!

Ён павёў вачыма па прысутных а затым крыкнуў:

- Pomożecie?!

- Pomożemy! - набожна прадэкламавалі Ул. Юзвюк і Я. Сычэўскі і шпарка падарваўшыся ўкінулі ў воз камп'ютэры, на якіх толькі-што сядзелі.

- Pomożemy! - зашапталі К. Майсеня і М. Хмялеўскі і зрабілі тое ж самае.

- Po-o-o-o-o-o-mo-że-my! - запялі сапрана-барытонам на матыў "Інтэрнацыянала" В. Ласкевіч і М. Бушко.

- Мууу!! - заўторыла ім якаясьці крылатая карова, якую Янка Целушэцкі запрагаў у воз.

- Ад гэтай каровы я штогод надойваў і дастаўляў у малачарню па паўтысячы літраў малака, - сказаў ён. - Дарога, па якой я вазіў гэтае малако, была такая выбоістая, што аж рысоры трэскалі, а ад гэтага трэску з аўтобусных прыпынкаў выпадалі люксферы.

Найважнейшы залез тым часам на Янкаву Пегасулю і застагнаў:

- Калі хочаш мець вусы як венік, кладзі на губы ўгнаенні.

- Калі хочаш мець х... як венік, кладзі яго на ўгнаенні - прамармытаў у адказ, трымаючыся плоту, 65-гадовы селянін, размоўца Алеся Барскага з 51 /1910/ нумара "Нівы".

Ад такой нечаканай бескультурнасці я закрыў вочы, а потым паглядзеў уверх. На хляве, на громаадводах, свяціліся чырвоныя, пяціканцовыя зоркі, купленыя на базары.

Прабудзіўся я. Аўтобус падымаўся на горку за бандарскім мостам. З левага боку, з вады, тырчэлі беласценныя руіны лучанскай крамы. Дзесяткі такіх крамаў пабудавана ў 60-х гадах на Гайнаўшчыне грамадскім чынам. Няма сярод іх, мабыць, такой, пры пабудове якой асабіста не працаваў сп. Майсеня, які ў той час быў прэзэсам гайнаўскага пэзэтгэзсу. Дарога, па якой каціўся аўтобус, як і ўсе навакольныя, вакол Ляўкова і Нараўкі, былі або будаваныя, або рамантаваныя "цэрамікай" або эскаэрам, якімі ён кіраваў. У Нараўцы стаіць механічны цэх, які паўстаў пры ім. Хто з'яўляецца душой пабудовы Беларускага музея ў Гайнаўцы, не мушу хіба тут прыпамінаць. А колькі яшчэ добрых учынкаў зрабіў гэты чалавек! Дзесятак год назад ішоў я дарогай у снежную зімовую завіруху. Дагнала мяне эскаэраўская "волга", затрымалася. Сп. Майсеня папрасіў мяне ў машыну і падвёз, куды мне было трэба. Таму здзіўляе мяне, што ён далучыўся да пагражаючай вялікімі стратамі гулянкі, якую выдумаў Найважнейшы. Папрасіў ён, відаць, добрага Майсеню і добры Майсеня нядоўга, або і зусім не думаючы, згадзіўся. А можа сп. Майсеня дайшоў да вываду, што зрабіў ён занадта многа і цяпер, як тая Хвядора - то пые, то пора. Таксама хіба толькі біблейны тлумачальнік егіпецкіх сноў Іосіф разгадае „прысутнасць" на гэтай абсурдальнай расправе сп. Бушко. Ён **інжынер**, дырэктар Гайнаўскага дома **культуры**, ініцыятар і арганізатар фестывалю царкоўнай музыкі, не мае здаецца нічога супраць "пачынаў" чалавека, у якога ёсць крышку падабенства да найбольшых атэістаў нашага стагоддзя. Якая нячыстая сіла апанавала іншых дзеячоў, у якіх таксама непустыя біяграфіі, што і яны палезлі ў гэты кашчэеў гной? А можа яны хочуць мець вусы як венік?

У лістападзе 1992 г. адбыўся пленум ГП БГКТ. Адбыўся ён таксамюсенька, як адбываліся ў недалёкім мінулым усе партыйныя пленумы ці сходы: кіраўніцтва чытала нейкія рэфераты ці справаздачы, у якіх нешта гаварылася (пра „дасягненні" а нават „недахопы"), а пра нешта прамоўчвалася. Прамоўчвалася пра „Ніву" і заграбленыя у яе камп'ютэры; нічагуткa не гаварылася пра "перспектывы" іх выкарыстання Таварыствам. Дэлегаты - члены ГП БГКТ - аднагалосна, моўчкі, прадрамалі гэтую цырымонію; нікому з іх не прыйшло ў голаў каб пра што-небудзь запытаць. Пытанне пра камп'ютэры, якое адзін чалавек "звонку" паставіў старшыні ГП БГКТ нікога з іх не прабудзіла. Яны драмалі паслухмяна і чутка, па-партыйнаму, каб не праспаць пытання правадыра "хто за?" і пакорна падняць рукі. Бо калі б хто-небудзь з іх адстаў ад "адзінага страю", правадыр не цырымоніўся б з ім: ён ужо расправіўся з некалькімі смельчакамі, якія, будучы членамі Прэзідыума ГП БГКТ, асмеліліся мець свае ўласныя погляды. А ў БГКТ свае ўласныя погляды мае права мець толькі адзін ён! Узяўся ён і за „Ніву", дзе таксама захацелася яму ўстанавіць "парадак". Калі гэта не ўдалося /"Ніва" ж не "палітбюро"/, паслаў ён сваіх верных "гвардзістаў", каб тыя адабралі „Ніве" яе камп'ютэры. Як Ленін і Сталін пасылалі сваіх чэкістаў адбіраць ад людзей іхнюю маёмасць. Але эпоха змянілася і цяпер "гвардзісты" не змаглі прымусіць „Ніву" да падпарадкавання свайму правадыру. „Ніва" карыстаецца іншымі, чужымі, камп'ютэрамі, слабейшымі ад захопленых, што камплікуе працу рэдакцыі, аднак тыднёвік выпускаецца рэгулярна. Рэгулярна, штотыдзень, друкуюцца і фельетоны ніўскага "дабрадзея", у якіх мроіць ён аб вяртанні да старога парадку. Так як і яго бальшавіцкія куміры, называе ён гэты "парадак" сацыялізмам. Пра лёс захопленых камп'ютэраў, пра іх новую "ролю" - ані слова.

Дзяржава наша стала апошнім часам вельмі скупой на грошы. Два гады таму назад паказала аднак свой жэст і выдзеліла немалыя грошы на патрэбы беларускага асяроддзя. І дала іх, здавалася б, цывілізаваным людзям, каб выкарысталі гэты капітал для памнажэння матэрыяльных і духоўных вартасцяў. А што зрабілі нашыя вучоныя /некаторыя з навуковымі званнямі/ "капіталісты" з Найважнейшым на чале? Гной - гэта ўжо не такая і абстракцыя. Хай яшчэ нейкі час камп'ютэры паплеснеюць у па-рознаму абаграваных памяшчэннях ГП БГКТ, то можна будзе іх лёгкай рукой выкінуць на звалку (а можа ўжо гэта можна зрабіць і цяпер?). Або перавезці ў музей, як матэрыяльны доказ "нашага" вандалізму. Пяцьдзесят тысяч долараў, гэта ж грошы дзяржаўныя, нічые, "камуністычныя", як бы яны не выпрацаваны былі рукамі і галовамі нашых падаткаплацельшчыкаў, а зляцелі з неба, як біблейная манна. Думаю, што нават дзікуны, якія адзяваюць толькі салому ў нос, ляпей ад нашага "прэзідыума" абышліся б з кампітоўным дабром. Як на нас будуць глядзець, ці ўжо глядзяць, іншыя? Ці як на нейкае быдла, якому апрача саломы нічога не варта даваць? Яна ж найляпей надаецца на гной. І ці не дасць нам дзяржава салому і на музей, і на фестывалі - гайнаўскі і другія, і на "Ніву" і на іншыя нашы патрэбы? Калі наша беларускае асяроддзе дапусціць да варварскага знішчэння атрыманага намі дабра, можам у далейшым разлічваць толькі на дулю пад нос і ў нос. І то не толькі ад дзяржавы, але і ад усіх цывілізаваных і нецывілізаваных людзей; ахвотныя толькі чакаюць на гэта.

А што будзе з Найважнейшым? Яму ўжо "з горкі", пойдзе на пенсію і будзе цешыцца кашчэевай радасцю з пакінутых за сабою руін.

А "гвардзісты" - удзельнікі штурму на рэдакцыю "Нівы", падчас якога захапілі патрэбныя для набору нашага тыднёвіка камп'ютэры - як яны ставяцца да свайго "пачыну"? Прыпомню яшчэ раз іх прозвішчы: В. Ласкевіч, П. Лемеш, Я. Сычэўскі, М. Хмялеўскі, Я. Целушэцкі, Ул. Юзвюк. Яны перфектна, як петраградскія матросы, выканалі загад свайго правадыра, паверыўшы ў яго мудрасць і беспамылковасць. А ці сёння таксама слепа вераць, як у красавіку 1992 года? А можа яны думалі, што ў гэтыя бляшаныя скрынкі нехта нацюкаваў салому з канадскай пшаніцы? Ці можа схадзілі па розум да галавы і здагадаліся, дзе зерне, а дзе палова? На гэта ніколі не позна - і старэйшым і, асабліва, малодшым. А калі хтось баіцца, ці не можа, дапусціць сваіх шэрых клетак да работы, прапаную яму, каб давесці „парадак" да канца. Камп'ютэры гэтыя займаюць два пакойчыкі і да нічога ў БГКТ яны непатрэбныя, перашкаджаюць толькі: ні ў аглоблі, ні ў ацёсы, толькі загваздка ў калёсы. Ці не ляпей было б зваліць іх у нейкі куток, адзін на адзін, як салому ў стог? А калі згніюць, пад'ехаць возам і ціха вывезці ў поле?

У краінах, якія мы яшчэ нядаўна называлі капіталістычнымі, людзі вельмі акуратна сочаць за ўсімі сваімі грашмі: і тымі, што знаходзяцца ў іх і тымі, што папалі ў дзяржаўны скарб. Тамашняе грамадства дакладна разлічвае людзей, якім дзяржава даверыла свае грошы. Калі б яны што-небудзь змарнатравілі з гэтага дабра, то з трэскам выляцелі б са сваіх экспанаваных пасадаў.

А мы, даражэнькія беларусы, будзем ціха і пакорліва прыглядацца да гэтага. Хай намі фурманіць хто хоча і як хоча. Якая нам да гэтага справа - наша ж хата з краю! Ці то ў Бельску, ці то ў Менску: паставілі нейкага начальніка - хай ён і камандуе. А выбіраць? - Хай другія выбіраюць і камандуюць, а мы, калі нават пойдзем на выбары, то абярэм таго самога. Ну бо і як без яго абыйсціся? - Прападзем, быццам вошы ў кажусе.

Аўтобус ехаў далей. За лесам схаваліся беласценныя руіны лучанскай крамы. Знікла з вачэй і штучнае возера. Як добра было б злавіць у ім нейкую залатую рыбку. І папрасіць яе, каб збудавала нейкі вялікі палац. І каб у тым палацы, не бачаныя нікім, старыя і маладыя, адукаваныя і неадукаваныя, з вусамі як венік і з барадамі як кудзеля, маглі адзецца ў лакейскія ліўрэі і, як у нейкім панурым маскарадзе, вышумецца, знішчаючы ўсё, чаго зажадалі б ад залатой рыбкі іх апалелыя куміры. Хай гэта былі б ці то кнігі, ці храмы, ці камп'ютэры, ці звычайны хатні набытак, абы толькі не быў ён пладом людской натугі, а толькі казачным дарам залатой рыбкі. А наяўнае дабро хай служыла б людзям згодна з яго назначэннем.

Аўтобус затрымаўся. За прыпынкам, разам з раскіданымі люксферамі, валялася падгніўшае, разваленае карытка.



 

### STYCZEŃ - СТУДЗЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Пт** | **Nowy Rok, Баніфація** |
| 2 | 20 | Сб | Izydora, Ігнація |
| **3** | **21** | **Н** | **Danuty, Ульяны** |
| 4 | 22 | Пн | Eugeniusza, Анастассі |
| 5 | 23 | А | Edwarda, Паўла |
| 6 | 24 | Ср | Kacpra, *Куцця* |
| 7 | 25 | Ч | Juliana, *Каляды (Нар. Хрыс.)* |
| 8 | 26 | Пт | Mścisława, *Сабор Пр. Багар.* |
| 9 | 27 | Сб | Marcjanny, Сцяпана |
| **10** | **28** | **Н** | **Jana, Ніканора** |
| 11 | 29 | Пн | Honoraty, Хвядоса |
| 12 | 30 | А | Arkadiusza, Анісі |
| 13 | 31 | Ср | Weroniki, Маланні |
| 14 | 1 | Ч | Feliksa, *Новы Год* |
| 15 | 2 | Пт | Pawła, Серафіма |
| 16 | 3 | Сб | Włodzimierza, Гардзея |
| **17** | **4** | **Н** | **Antoniego, Засімы** |
| 18 | 5 | Пн | Małgorzaty, Міхея |
| 19 | 6 | А | Henryka, *Вадохрышча* |
| 20 | 7 | Ср | Sebastiana, *Сабор св. Яна Хрысц.* |
| 21 | 8 | Ч | Agnieszki, Юрыя |
| 22 | 9 | Пт | Wincentego, Піліпа |
| 23 | 10 | Сб | Marii, Рыгора |
| **24** | **11** | **Н** | **Feliksa, Феадосія** |
| 25 | 12 | Пн | Miłosza, Тацяны |
| 26 | 13 | А | Pauli, Пятра |
| 27 | 14 | Ср | Jana, Ніны |
| 28 | 15 | Ч | Walerego, Паўла |
| 29 | 16 | Пт | Franciszka, Даната |
| 30 | 17 | Сб | Martyny, Антона |
| **31** | **18** | **Н** | **Marceliny, Апанаса** |

### LUTY - ЛЮТЫ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Пн | Ignacego, Макара |
| 2 | 20 | А | Danuty, Іны |
| 3 | 21 | Ср | Juliana, Максіма |
| 4 | 22 | Ч | Konstancji, Цімафея |
| 5 | 23 | Пт | Konrada, Клімента |
| 6 | 24 | Сб | Leona, Ксенні |
| **7** | **25** | **Н** | **Eleonory, Рыгора** |
| 8 | 26 | Пн | Jana, Аркадзя |
| 9 | 27 | А | Apolonii, Яна |
| 10 | 28 | Ср | Elwiry, Яфрэма |
| 11 | 29 | Ч | Bernadetty, Ігната |
| 12 | 30 | Пт | Nory, Васіля |
| 13 | 31 | Сб | Katarzyny, Мікіты |
| **14** | **1** | **Н** | **Liliany, Трыфана** |
| 15 | 2 | Пн | Jowity, *Грамніцы* |
| 16 | 3 | А | Danuty, Сымона |
| 17 | 4 | Ср | Juliana, Мікалая |
| 18 | 5 | Ч | Konstancji, Агаты |
| 19 | 6 | Пт | Arnolda, Хрысціны |
| 20 | 7 | Сб | Leona, Парфена |
| **21** | **8** | **Н** | **Eleonory, Захара** |
| 22 | 9 | Пн | Marty, Нікіфара |
| 23 | 10 | А | Romany, Ганны |
| 24 | 11 | Ср | Bogusza, Усевалада |
| 25 | 12 | Ч | Cezarego, Аляксея |
| 26 | 13 | Пт | Aleksandra, Зоі |
| 27 | 14 | Сб | Anastazji, Кірыла |
| **28** | **15** | **Н** | **Makarego, Ефрасінні** |

### MARZEC - САКАВІК

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 16 | Пн | Albina, Даніла |
| 2 | 17 | А | Heleny, Хведара |
| 3 | 18 | Ср | Kunegundy, Лявона |
| 4 | 19 | Ч | Łucji, Архіпа |
| 5 | 20 | Пт | Fryderyka, Юрыя |
| 6 | 21 | Сб | Róży, Цімахвея |
| **7** | **22** | **Н** | **Tomasza, Палікарпа** |
| 8 | 23 | Пн | Beaty, Дзямяна |
| 9 | 24 | А | Franciszki, Эразма |
| 10 | 25 | Ср | Cypriana, Тараса |
| 11 | 26 | Ч | Benedykta, Парфіра |
| 12 | 27 | Пт | Bernarda, Пракопа |
| 13 | 28 | Сб | Bożeny, Марыны |
| **14** | **1** | **Н** | **Matyldy, Еўдакіі** |
| 15 | 2 | Пн | Ludwiki, Хвядота |
| 16 | 3 | А | Izabeli, Зянона |
| 17 | 4 | Ср | Patryka, Даніла |
| 18 | 5 | Ч | Cyryla, Адрыяна |
| 19 | 6 | Пт | Bogdana, Аркадзя |
| 20 | 7 | Сб | Klaudii, Васіля |
| **21** | **8** | **Н** | **Benedykty, Лазара** |
| 22 | 9 | Пн | Katarzyny, *40 мучанікаў* |
| 23 | 10 | А | Pelagii, Міхала |
| 24 | 11 | Ср | Gabriela, Сафронія |
| 25 | 12 | Ч | Marii, Рыгора |
| 26 | 13 | Пт | Emanuela, Хрысціны |
| 27 | 14 | Сб | Lidii, Расціслава |
| **28** | **15** | **Н** | **Anieli, Аляксандра** |
| 29 | 16 | Пн | Wiktoryny, Юльяна |
| 30 | 17 | А | Dobromira, Аляксея |
| 31 | 18 | Ср | Balbiny, Трахіма |

# БЕЛАРУСКІ 1993 КАЛЯНДАР

**Паясненні:**

У першай калонцы цыфр прыводзяцца даты паводле новага стылю; у другой калонцы - паводле старога стылю, прычым першых трынаццаць датаў адносіцца да папярэдняга месяца. У чацвёртай калонцы прыводзяцца імёны святых або назвы важнейшых святаў:

*Фота В. Рудчыка*

### LIPIEC - ЛІПЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 18 | Ч | Haliny, Лявона |
| 2 | 19 | Пт | Marii, Юды |
| 3 | 20 | Сб | Jacka, Мяфодзія |
| **4** | **21** | **Н** | **Malwiny, Юльяна** |
| 5 | 22 | Пн | Wincentego, Зіны |
| 6 | 23 | А | Czesława, Арцёма |
| 7 | 24 | Ср | Daniela, *Нар. св. Яна Хрысц.* |
| 8 | 25 | Ч | Albina, Пятра |
| 9 | 26 | Пт | Apolinarego, Давіда |
| 10 | 27 | Сб | Kingi, Самсона |
| **11** | **28** | **Н** | **Olgi, Сяргея** |
| 12 | 29 | Пн | Weroniki, *Пятра і Паўла* |
| 13 | 30 | А | Małgorzaty, *12 апосталаў* |
| 14 | 1 | Ср | Stelli, *Кузьмы і Дзямяна* |
| 15 | 2 | Ч | Henryka, Фоція |
| 16 | 3 | Пт | Marii, Анатоля |
| 17 | 4 | Сб | Aleksego, Андрэя |
| **18** | **5** | **Н** | **Kamila, Апанаса** |
| 19 | 6 | Пн | Wincentego, Юліяны |
| 20 | 7 | А | Czesława, Тамаша |
| 21 | 8 | Ср | Benedykta, Пракопа |
| 22 | 9 | Ч | Wawrzyńca, Панкрата |
| 23 | 10 | Пт | Bogny, Антона |
| 24 | 11 | Сб | Krystyny, Вольгі |
| **25** | **12** | **Н** | **Jakuba, Міхала** |
| 26 | 13 | Пн | Anny, Сцяпана |
| 27 | 14 | А | Julii, Анісіма |
| 28 | 15 | Ср | Wiktora, Уладзіміра |
| 29 | 16 | Ч | Marty, Юліі |
| 30 | 17 | Пт | Ludmiły, Маргарыты |
| 31 | 18 | Сб | Ignacego, Емяльяна |

### SIERPIEŃ - ЖНІВЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| **1** | **19** | **Н** | **Piotra, Серафіма** |
| 2 | 20 | Пн | Gustawa, *Ільі* |
| 3 | 21 | А | Lidii, Сымона |
| 4 | 22 | Ср | Dominika, Марыі Магдаліны |
| 5 | 23 | Ч | Marii, Трахіма |
| 6 | 24 | Пт | Sławy, Хрысціны |
| 7 | 25 | Сб | Doroty, *Ганны* |
| **8** | **26** | **Н** | **Cypriana, Параскевы** |
| 9 | 27 | Пн | Romualda, Панцялеймана |
| 10 | 28 | А | Borysa, Ніканора |
| 11 | 29 | Ср | Zuzanny, Калініка |
| 12 | 30 | Ч | Klary, Валянціна |
| 13 | 31 | Пт | Diany, Юліты |
| 14 | 1 | Сб | Alfreda, Макавеяў |
| **15** | **2** | **Н** | **Wniebowz. NMP, Сцяпана** |
| 16 | 3 | Пн | Joachima, Ісака |
| 17 | 4 | А | Anity, Яўдоцці |
| 18 | 5 | Ср | Heleny, Ноны |
| 19 | 6 | Ч | Bolesława, *Спаса* |
| 20 | 7 | Пт | Bernarda, Пімена |
| 21 | 8 | Сб | Joanny, Мірона |
| **22** | **9** | **Н** | **Marii, Мацвея** |
| 23 | 10 | Пн | Filipa, Лаўрэна |
| 24 | 11 | А | Jerzego, Хведара |
| 25 | 12 | Ср | Luizy, Фоція |
| 26 | 13 | Ч | Marii, Максіма |
| 27 | 14 | Пт | Cezarego, Міхея |
| 28 | 15 | Сб | Patrycji, *Спленне* |
| **29** | **16** | **Н** | **Sabiny, Дыяміда** |
| 30 | 17 | Пн | Róży, Паўла |
| 31 | 18 | А | Rajmunda, Флора |

### WRZESIEŃ - ВЕРАСЕНЬ

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | 19 | Ср | Bronisława, Андрэя |
| 2 | 20 | Ч | Stefana, Самуіла |
| 3 | 21 | Пт | Izabeli, Фадзея |
| 4 | 22 | Сб | Rozalii, Апанаса |
| **5** | **23** | **Н** | **Doroty, Ірэнея** |
| 6 | 24 | Пн | Beaty, Пятра |
| 7 | 25 | А | Reginy, Ціта |
| 8 | 26 | Ср | Radosława, Наталлі |
| 9 | 27 | Ч | Piotra, Пімена |
| 10 | 28 | Пт | Aldony, Ганны |
| 11 | 29 | Сб | Jacka, *Галавасека* |
| **12** | **30** | **Н** | **Marii, Аляксандра** |
| 13 | 31 | Пн | Eugenii, Генадзя |
| 14 | 1 | А | Bernarda, Сымона |
| 15 | 2 | Ср | Nikodema, Яна |
| 16 | 3 | Ч | Edyty, Анхіма |
| 17 | 4 | Пт | Justyny, Майсея |
| 18 | 5 | Сб | Irmy, Альжбеты |
| **19** | **6** | **Н** | **Konstancji, Зянона** |
| 20 | 7 | Пн | Eustachego, Лукаша |
| 21 | 8 | А | Miry, *Прачыстая* |
| 22 | 9 | Ср | Maurycego, Ганны |
| 23 | 10 | Ч | Bogusława, Клімента |
| 24 | 11 | Пт | Gerarda, Хвядоры |
| 25 | 12 | Сб | Aurelii, Юліяна |
| **26** | **13** | **Н** | **Justyny, Пятра** |
| 27 | 14 | Пн | Damiana, *Узн. Кр. Гасп.* |
| 28 | 15 | А | Marka, Мікіты |
| 29 | 16 | Ср | Michaliny, Людмілы |
| 30 | 17 | Ч | Zofii, Веры |

## KWIECIEŃ - **КРАСАВІК**

1 19 Ч Grażyny, Дар'і
2 20 Пт Franciszka, Сяргея
3 21 Сб Ryszarda, Якуба
**4 22 Н Izydora, Васіля**
5 23 Пн Ireny, Нікана
6 24 А Celestyna, Арцёма
7 25 Ср Donata, *Дабравешчанне Пр. Багар.*
8 26 Ч Dionizego, Алы
9 27 Пт Mai, Матруны
10 28 Сб Małgorzaty, Ларывона
**11 29 Н Wielkanoc,** ***Вербніца***
**12 30 Пн Pon. Wielk., Марыі**
13 31 А Idy, Іпація
14 1 Ср Justyny, Марыі
15 2 Ч Anastazji, Палікарпа
16 3 Пт Julii, Мікіты
17 4 Сб Roberta, Язэпа
**18 5 Н Apoloniusza,** ***Вялікдзень***
19 6 Пн Jerzego, *Велікодны Панядзелак*
20 7 А Agnieszki, Даніла
21 8 Ср Anzelma, Радзівона
22 9 Ч Łukasza, Вадзіма
23 10 Пт Wojciecha, Цярэнція
24 11 Сб Aleksego, Анціпа
**25 12 Н** Jarosława, **Васіля**
26 13 Пн Marii, Артамона
27 14 А Zyty, Марціна
28 15 Ср Walerii, Трахіма
29 16 Ч Piotra, Галіны
30 17 Пт Mariana, Адрыяна

## MAJ - ТРАВЕНЬ

1 18 **Сб** Święto Pracy, **Яна**
**2 19 Н Anatola, Нікіфара**
**3 20 Пн** Święto Narodowe, *Гаўрыіла Забл.*
4 21 А Moniki, Януарыя
5 22 Ср Waldemara, Віталя
6 23 Ч Jana, *Юрыя*
7 24 Пт Benedykta, Савы
8 25 Сб Stanisława, Сільвестра
**9 26 Н Grzegorza, Васіля**
10 27 Пн Antoniny, Сямёна
11 28 А Igi, Кірылы Тураўск.
12 29 Ср Dominika, Дыядора
13 30 Ч Roberta, Якуба
14 1 Пт Bonifacego, Тамары
15 2 Сб Nadziei, *Барыса і Глеба*
**16 3 Н Andrzeja, Цімафея**
17 4 Пн Weroniki, Пелагеі
18 5 А Eryka, Ірэны
19 6 Ср Mikołaja, Міхея
20 7 Ч Bazylego, Ніла
21 8 Пт Wiktora, Арсеня
22 9 Сб Heleny, *Мікалая*
**23 10 Н Iwony, Сымона**
24 11 Пн Joanny, Кірыла
25 12 А Grzegorza, Германа
26 13 Ср Pauliny, Аляксандра
27 14 Ч Magdaleny, *Ушэсце*
28 15 Пт Augustyna, Мадэста
29 16 Сб Magdaleny, Хведара
**30 17 Н** Zielone Św., **Ефрасінні**
31 18 Пн Anieli, Хвядота

## CZERWIEC - ЧЭРВЕНЬ

1 19 А Jakuba, Карніла
2 20 Ср Marii, Аляксандра
3 21 Ч Leszka, Кастуся
4 22 Пт Franciszka, Уладзіміра
5 23 Сб Walerii, *Ефрасінні Полацкай*
**6 24 Н Norberta, Сёмуха**
7 25 Пн Wiesława, *Дзень Св. Духа*
8 26 А Wilhelma, Карпа
9 27 Ср Pelagii, Ніла
**10 28 Ч** Boże Ciało, **Мікіты**
11 29 Пт Feliksa, Хвядоссі
12 30 Сб Jana, Ісака
**13 31 Н Antoniego, Ерамея**
14 1 Пн Elizy, Юстына
15 2 А Jolanty, Нікіфара
16 3 Ср Aliny, Лук'яна
17 4 Ч Laury, Мітрафана
18 5 Пт Elżbiety, Дарафея
19 6 Сб Gerwazego, Сюзаны
**20 7 Н Bogny, Валерыі**
21 8 Пн Alicji, Хведара
22 9 А Flawiusza, Марфы
23 10 Ср Wandy, Аляксандра
24 11 Ч Danuty, Варфаламея
25 12 Пт Łucji, *Св. Ануфрыя*
26 13 Сб Jana, Антаніны
**27 14 Н** Władyslawa, **Елісея**
28 15 Пн Ireneusza, Амоса
29 16 А Piotra, Ціхана
30 17 Ср Emilii, Мануіла

# КАЛЯНДАР 1993 „НІВЫ"

на першым месцы (на польскай мове) названы каталіцкія імёны (святы), на другім месцы (па-беларуску) названы праваслаўныя імёны (святы). Тоўстым шрыфтам пазначаны нядзелі і дзяржаўныя або каталіцкія святы, якія з'яўляюцца днямі вольнымі ад працы ў Польшчы. Курсівам пазначаны важнейшыя каталіцкія і праваслаўныя святы.

*Фота Ю. Трачука*

## PAŹDZIERNIK - **КАСТРЫЧНІК**

1 18 Пт Danuty, Арыядны
2 19 Сб Teofila, Хведара
**3 20 Н Teresy, Міхала**
4 21 Пн Franciszka, Кандрата
5 22 А Apolinarego, Іоны
6 23 Ср Artura, Андрэя
7 24 Ч Marii, Тэклі
8 25 Пт Brygidy, Сяргея
9 26 Сб Ludwika, Яна Багаслова
**10 27 Н Pauliny, Ігната**
11 28 Пн Emila, Харытона
12 29 А Maksymiliana, Кірыяка
13 30 Ср Edwarda, Рыгора
14 1 Ч Bernarda, *Пакрова*
15 2 Пт Jadwigi, Кіпрыяна
16 3 Сб Florentyny, Яна
**17 4 Н** Małgorzaty, **Уладзіміра**
18 5 Пн Łukasza, Пятра
19 6 А Ziemowita, Тамаша
20 7 Ср Ireny, Сяргея
21 8 Ч Urszuli, Таісы
22 9 Пт Filipa, Якуба
23 10 Сб Marleny, Яўлампія
**24 11 Н Rafala, Піліпа**
25 12 Пн Darii, Марціна
26 13 А Ewarysta, Веніяміна
27 14 Ср Sabiny, Назара
28 15 Ч Szymona, Лук'яна
29 16 Пт Wiolety, Лонгіна
30 17 Сб Edmunda, Андрэя
**31 18 Н Augusta, Лукі**

## LISTOPAD - ЛІСТАПАД

**1 19 Пн** Wszystkich Świętych, **Яна**
2 20 А Bohdana, Арцёма
3 21 Ср Sylwii, Ларывона
4 22 Ч Karola, *Казан. Ік. БМ*
5 23 Пт Elżbiety, Якуба
6 24 Сб Feliksa, Апанаса
**7 25 Н Antoniego, Марціна**
8 26 Пн Seweryna, Зміцера
9 27 А Teodora, Нестара
10 28 Ср Andrzeja, Параскевы
**11 29 Ч** Święto Niepodl., **Анастассі**
12 30 Пт Witolda, Зіновія
13 31 Сб Mikołaja, Урбана
**14 1 Н Emila, Кузьмы**
15 2 Пн Leopolda, Марк'яна
16 3 А Gertrudy, Агапія
17 4 Ср Grzegorza, Нікандра
18 5 Ч Anieli, Галакціёна
19 6 Пт Elżbiety, Паўла
20 7 Сб Anatola, Засімы
**21 8 Н Janusza,** ***Міхаіла***
22 9 Пн Cecylii, Анісіфара
23 10 А Felicyty, Радзівона
24 11 Ср Flory, Віктара
25 12 Ч Katarzyny, Яна
26 13 Пт Konrada, Нікіфара
27 14 Сб Barbary, Піліпа
**28 15 Н Krystyny, Гурыя**
29 16 Пн Błażeja, Мацвея
30 17 А Andrzeja, Рыгора

## GRUDZIEŃ - **СНЕЖАНЬ**

1 18 Ср Natalii, Платона
2 19 Ч Balbiny, Аўдзея
3 20 Пт Ksawerego, Рыгора
4 21 Сб Barbary, *Увядз. у храм ПДзМ*
**5 22 Н Krystyny, Хілімона**
6 23 Пн Emiliana, Аляксандра
7 24 А Ambrożego, Кацярыны
8 25 Ср Marii, Пятра
9 26 Ч Leokadii, Якуба
10 27 Пт Daniela, Рамана
11 28 Сб Waldemara, Сцяпана
**12 29 Н Adelajdy, Парамона**
13 30 Пн Łucji, Андрэя
14 1 А Alfreda, Філарэта
15 2 Ср Celiny, Авакума
16 3 Ч Zdzisławy, Хведара
17 4 Пт Olimpii, *Варвары*
18 5 Сб Bogusława, Савы
**19 6 Н Dariusza,** ***Мікалая***
20 7 Пн Dominika, Антона
21 8 А Tomasza, Патапа
22 9 Ср Honoraty, Ганны
23 10 Ч Sławomiry, Ангеліны
24 11 Пт *Wigilia*, Данілы
**25 12 Сб** Boże Narodzenie, **Аляксандра**
**26 13 Н Izydora, Яўгена**
27 14 Пн Cezarego, Хілімона
28 15 А Teofili, Сцяпана
29 16 Ср Dominika, Агея
30 17 Ч Eugeniusza, Данілы
31 18 Пт *Sylwestra*, Зоі




„OMEGA" Spółka z o.o.

17-100 Bielsk Podlaski

ul. Widowska 4

tel. 2202, 2203, 3301

tel/fax 4350

telex 852320 PL OMEGA

# Прадпрыемства "Амэга" зь Бельска Падляшскага,

што на Беласточчыне, дзейнічае як на польскім, так і на міжнародным рынку, і займаецца экспартам і імпартам тавараў. Мы спэцыялізуемся ў пастаўках сельскагаспадарчых прадуктаў - як сыравіны, так і прадуктаў перапрацаваных. Праводзім транзакцыі за гатоўку й на бартарных асновах. Зьяўляемся адной з найбольшых фірмаў гэткага тыпу ў краіне. Нашымі найбольшымі партнэрамі зьяўляюцца гандлёвыя прадпрыемствы й урадавыя агэнцтвы Рэспублікі Беларусь. Мы імкнемся пашыраць гандлёвую дзейнасьць на краіны ўсяго сьвету. Займаемся прамоцыяй краёвых і замежных сельскагаспадарчых машын і прыладаў, якія служаць вырошчваньні, перахоўцы й перагрузцы збожжа. Мы разьвіваем партнэрскае супрацоўніцтва з удзелам краёвых і замежных прадпрыемстваў.

☞ Прапануем на продаж наступныя тавары:

- ❒ збожжа /жыта, пшаніцу, кукурузу/
- ❒ цукар, сокі і пажыўныя прэпараты для дзяцей
- ❒ алей /сыры/
- ❒ тэхналягічныя лініі для перапрацоўкі сельскагаспадарчых прадуктаў
- ❒ вопратку, абутак
- ❒ электроніку
- ❒ іншыя тавары бытавога ўжытку ды тавары па запатрабаваньні кліента.

☞ Цікавіць нас закуп:

- ❒ сыравіны /асабліва піламатэрыялаў/
- ❒ нафтавых прадуктаў /бэнзыны, дызэльнага паліва, мазуту і г.п./
- ❒ мінэральных угнаеньняў
- ❒ казэіны
- ❒ сухога малака ды іншых тавараў.

# Прадпрыемства "Амэга" гэта ня толькі:

- ❒ дасьведчаны й карысны гандлёвы партнэр Рэспублікі Беларусь
- ❒ лучнік у гандлёвых зносінах прадпрымальнікаў Заходняй Эўропы й Паўночнае Амэрыкі зь Беларусьсю
- ❒ надзейны партнэр у крытычных патрэбах гаспадарчых структураў Рэспублікі Беларусь
- ❒ адна з найбольшых фірмаў гэткага тыпу ў Польшчы
- ❒ прадпрыемства велізарных магчымасьцяў

☞ "Амэга" шырока ведамая як спонсар беларускай культуры на Беласточчыне, у Польшчы і ў Беларусі. Між іншым, наша фірма поўнасьцю спансаравала або ўспамагла наступныя мерапрыемствы:

- ❒ першы Сход Беларусаў Блізкага Замежжа, арганізаваны Згуртаваньнем Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" - 31.282.000 зл.
- ❒ рамонт аб'екту рэлігійна-адукацыйнага прызначэньня пры парафіі Сьвятой Багародзіцы Марыі ў Варшаве - 20.000.000 зл.
- ❒ ахвяравала харугвы парафіі ў Расонах, што на Полаччыне - 18.420.000 зл.
- ❒ абсталявала тэлекс пасольству Рэспублікі Беларусь у Варшаве - 16.000.000 зл.
- ❒ дапамогу дзецям Чарнобыля праз Беларускі Чырвоны Крыж - 14.327.000 зл.
- ❒ пабудову Беларускага Музэю ў Гайнаўцы - 15.000.000 зл.
- ❒ на рамонт 16-вяковай царквы ў вёсцы Мурованка, Маламажэйкаўскага раёну, што на Гродзеншчыне - 15.000.000 зл.
- ❒ Фэстываль Музыкі Маладой Беларусі "Басовішча'92" - 10.000.000 зл.
- ❒ Беларускі Народны Унівэрсытэт у Беластоку - 5.000.000 зл.
- ❒ перанясеньне мошчаў Сьв. Гаўрылы Заблудаўскага з Горадні ў Беласток - 5.000.000 зл.
- ❒ Міжнародны Фэстываль Царкоўнай Музыкі ў Гайнаўцы - 5.000.000 зл.
- ❒ мастацкую выстаўку Ігара Кашкурэвіча зь Менску ў Беластоку - 5.000.000 зл.
- ❒ раённы конкурс "Беларуская Песьня" ў Бельску Падляшскім - 864.000 зл.
- ❒ узнагароды вучням беларускага Ліцэю ў Гайнаўцы - 850.000 зл.
- ❒ сьвяткаваньне Дня Дзіцяці ў Гарадзкой Публічнай Бібліятэцы ў Бельску Падляшскім - 501.600 зл.
- ❒ беларускую вечарыну ў пачатковай школе н-р 3 у Бельску Падляшскім - 500.000 зл.

☞ Прадпрыемства "Амэга" - гэта таксама найбольшы інвэстар зь Беласточчыны ў Рэспубліцы Беларусь. Пры значным фінансавым удзеле "Амэгі" ды Наваполацкага Пэтрахэмічнага Камбінату "Нафтан" і саўгасу "Янковічы" распачаў дзейнасьць мясакамбінат "Нафтамея". Нашай фірмай разглядаецца таксама плян пабудовы гатэлю ў сталіцы Беларусі. Мяркуем таксама павысіць нашы ўдзелы ў "joint ventures", што дзейнічаюць у харчовай вытворчасьці ды гандлі.

*"Як стаць бізнесменам?" — інтэрв'ю Ады Чачугі з прэзасам фірмы "Амэга" Міраславам Целушэцкім чытайце ў наступным нумары "Нівы".*

# БЕЛАВЕЖА

*СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 396*

**НАДЗЕЯ АРТЫМОВІЧ**

* * *

Згубіць кірунак дарогі
у хворыя гады
яшчэ раз шукаць сваіх вачэй
чым перамыць вочы

суседзі адплылі
а дзеці гуляюць са сляпым сабакам
аднак жа
сляпыя гады
сляпы сон
сляпое слова
накормленае хлуснёй сэрца
чым перамыць

адкуль і дзе ідзеш
глядзіш на сцены мудрасці
і муры непрабачванняў
мужчынскі хор шукае слоў
бо ёсць
жыве мелодыя

што ўліць у далоні твае
хоць гарызонт усё шырэйшы
выбар
не выбар
маўчанне

сцягнуць рэха праўдзівасці
глянуць можа першы раз
на жыццё

* * *

пасля кожнага дня пытальнікаў
чакаем на слова начное
і прыдумаем сто розных слоў
на гэта адно
на памылку пройдзеных дарог

з небяспечнай хуткасцю
шукаем опіум для хворых душ
шукаем там
дзе няма сэрц

злоўленая ілюзія ёсць праўдай нашай
так як кожная праўда ілюзіяй

з няскончаным маналогам
з бярэмянным маўчаннем
блудзім у сваіх ціхіх
калідорах смерцяносных
адыгрываем тэатр аднаго акцёра
перад сабой

вечныя манадрамы з рэквізітам
разбітым збанком

* * *

у сваіх кароткіх вершах я нічога не гавару
я ніколі нічога не сказала нікому
я нямая

я не люблю эксперыментаў над чалавекам

я аналізавала кепскія сталічныя
і правінцыянальныя біяграфіі
і гладкія лісты ад сваіх знаёмых
я крыху ведаю

мяне не хапае на сэнс сваіх Бацькоў

мяне амаль няма

*снежань 1992*



*Надзея Артымовіч, Ян Максімюк і Міра Лукша ў Цеханоўцы - май 1992 г.*

**МІХАСЬ АНДРАСЮК**

**БЕЗ ЦЯБЕ**

Без цябе я не быў бы паэтам,
я тваімі вачыма натхнёны.
Ты прыходзіш увосень і летам,
і зімой, і вясною зялёнай.

Ды прыйдзі і будзь прымірэннем,
ды прыйдзі і будзь мне натхненнем,
рыфмай лёгкай, як лёт матыліны,
соннай радасцю дня і хвіліны.

Без цябе я не быў бы паэтам.
Ты - мадонна маіх вершаванняў,
ты прыносіш мне радасць сустрэчы,
ты прыносіш мне боль расставання.

Ды прыйдзі і будзь прымірэннем,
з добрым словам падзякі на вуснах;
Ды прыйдзі і будзь ты натхненнем,
белым полем і лесам, і пусткай.

**СТАЮ НА ДАРОЗЕ**

Я не бачыў іранскага шаха
і не бачыў я Сан-Францыска.
Толькі снежань аднойчы плакаў
над ліповай маёй калыскай.

Я не быў у старым Егіпце
і не быў я ў цёплай Італіі.
Толькі дрэва ў мінулым дзяцінстве
сваім шумам мяне калыхалі.

А цяпер я стаю на дарозе,
што вядзе ў Егіпт, Сан-Францыска...
Ці ісці мне далей, ці спыніцца,
ці вярнуцца, пакуль яшчэ блізка?..

Галаву я ўзяў у дарогу
і ўзяў я з сабою ногі;
Толькі сэрца, сэрца пакінуў
на пачатку вялікай дарогі.

**ЗІМОВАЯ НОЧ**

Гэта я у белай дарозе,
у аглоблях белыя коні.
А званочак - маленькае сэрца
ўсё звоніць, звоніць і звоніць.

Я не знаю, куды я еду,
і не знаю я гэтай дарогі,
і не бачу ні ветру, ні снегу,
і не чую у думках трывогі.

Там бягуць мае белыя коні
у ноч доўгую, як растанне.
Я бяру у свае далоні
усю ноч, аж да дна па світанне.

А званок ля дубовай аглоблі
ціха шэпча на вуха коням,
што ўся белая ноч, да світання
у маіх схавана далонях.

**ТАБЕ НА ІМЯ ВЕЦЕР**

Табе на імя вецер,
мяне завуць - бадзяга.
Мо, па шырокім свеце
давай мы пойдзем разам.

Ты нарадзіўся ў полі,
няшлюбны сын дарог,
таму пайду з табою,
не пашкадую ног.

Табе на імя вецер,
мяне завуць - бадзяга.
І у шырокім свеце
не прападзем мы разам.

Табе на імя вецер
мяне завуць бадзяга...

**САКРАТ ЯНОВІЧ**

## БАВАНТУР

Мой чытач, усё яшчэ сярэдневяковы, зразумее, чаму Бавантур - гэта не прозвішча, а празыўка.

Быў жа ён страшны нават бандытам у ваколіцы: біцца не ўмеў і не любіў, але рэзаць /нажом у скабы або швайкаю ў жывот/. Дзяўчат, праўда праўдаю, не чапаў, маючы да іх свой гонар. Бацькі пры ім - не скажу, каб мелі добра, але і не бэсціў іх занадта; матку, то і зусім толькі лаяў.

Вяселле Бавантура, як аніякае іншае, памяталі мы. Узяў ён брыдкую, як ноч, азярышчанскую хутаранку з няблагім пасагам. Згадзіў за яе дзесяціну сенакосу пад Туркавым крыжам і чацвяртушку пшанічнай зямлі за Доўгім выганам; карову, пяць авец, чатыры калоды пчолаў. Цесць да канца не ведаючы, з кім завёў сваяцтва, здумаў быў круціць перад самюткім шлюбам маладых, чаго і пашкадаваў назаўсёды. Пасадзіў яго Бавантур на лаву, сказаўшы: буду вашым зяцем, то не згарыць вам стадола ані, крый Божа, хлеў. Усенькая басота на вярсту абыходзіцьмець агарод з садам... Я вам, татку, гэта прысягаю, як Бавантур Бавантуру! - і дакінуў старому, каб музыкаў наняў, не кажучы пра гарэлісты стол. Стагні, не стагні, багатыр, а мае быць, як гавару, во; чорт вашу радзіну не браў, з постам не есць...

Ехаў Бавантур ад таго шлюбу з чубам набрылянтваным; пахарашэлая ў белені маладуха цукеркамі сыпала смургелям у вёсках; ён жа - не абычым, а манапалькаю выкупляючы праезды цераз уквечаныя брамы, настаўляныя кавалеркаю. Тры дні і тры ночы пілі ды закусвалі вясельнікі, танцуючы на таках у вымеценых перад жніво гумнах. Прыходзілі пабуяніць засранцы з гірамі ў рукавах, але Бавантуру даволі было глянуць ім у морды і яны адразу цішэлі, ішлі ў вёску, каб ад гэтага свайго жалю пашукаць у ёй каго нашпарыць. Аднак жа, у раз'езд гасцей, не стрываў адзін, выскачыў з абрэзам рускай вінтоўкі, бахнуўшы з яе над галавамі, па дахоўцы. Бавантур выбег расхлістаным на парог і так запусціў у таго спружынным нажом, што той сеў, бы сабака на хвост паскавытваючы...

Увалок дурня ў камору і там адратаваў, палячы порах на глыбокай ране каля шыі. Прыгаворваючы: - Другім разам пацэлю ў твае непатрэбныя яйца!..

Запамяталася.

Потым я падарасleў і жыццё пакіравала мною ў свае, пасляваенныя, далечыні. Прызабыў, што ёсць на свеце Бавантур ды ягоная, брыдкая, жонка. Іхнія дзеці - усё хлопцы - гэтаксама распаўзліся за лепшым хлебам. Здзівіла мяне вось што: Бавантур змяніўся! Можа таму, што прапала вечная маладосць вёскі?

А што, калі здарылася з ім самае звычайнае, менавіта тое, што і павінна было раней або пазней: папаўся з тым пасагам на ўсё доўгае жыццяванне... Такія людзі, як Бавантур, ад пройгрышу не бягуць прэч. Ламаюцца яны, а не гнуцца.

Бавантурыха - удадатак аказалася нямала старэйшай - памерла яксці пад леташні Вялікадзень, сеючы фасолю за прыгуменем. Бавантур пахаваў набожчыцу; спрасіў радню на памінкі. Аднекуль з Польшчы прыехаў сын з нявесткаю і ўнукам, каб забраць яго да сябе /другі - у Амерыцы дзесьці - прыслаў тэлеграму/.

На Юр'еў дзень пайшоў Бавантур глядзець поле. Знайшлі яго ўжо акалелым пад Перапёлчынай дзічкаю, што расце край лужка. Польская нявестка прагаварылася пасля перад нашымі напытлівымі бабамі, што ён прыняў якуюсьці атруту...

## НА МЯЖЫ

# БЕЛАРУСКІЯ КАПІТАЛІСТЫ

### ЧАСТКА XXIII

Амаль што татальная варожасць беларусаў да капіталізму адносіцца перш за ўсё да старэйшага пакалення. Сярод маладых гэтае пытанне выглядае, мабыць, па-другому. У гэтай справе аднак не магу выказвацца катэгарычна, бо меў я вялікія цяжкасці з навязаннем кантакту з маладымі. Праўда, маладыя не пазбягалі размовы, але іх выказванні не маюць той ёмкасці, той фабульнасці, якія выступаюць у выказваннях многіх дарослых. Маладыя адказваюць школьнымі словамі або некалькімі сказамі, якія могуць трактавацца як дэкларацыя, але не з'яўляюцца пашыранай матывацыяй. Дэкларацыі гэтыя зводзяцца найчасцей да такіх сцвярджэнняў як: „Тое, што было ўжо не вернецца", „Капіталізм лепшы, чым сацыялізм", „Хопіць паехаць на захад, каб даведацца, дзе людзям лепш жывецца", „Што вы нас пытаеце, вы ж былі на захадзе і лепш ведаеце чым я, дзе лепш, а дзе горш", „Старое ўжо не вернецца, каб толькі ў гэтым новым была работа і кватэра", „У наш капіталізм то я не веру, але ў заходні то веру і зраблю ўсё, каб як-небудзь туды вырвацца", „У нас быў хаос пры сацыялізме і будзе беспарадак пры капіталізме", „Як будзе, так будзе, гэтыя ўсе перамены не ад мяне, або ад такіх як я, залежаць". „Раз мае быць капіталізм, то хай будзе капіталізм". Усе прыведзеныя выказванні ў большай ці меншай ступені выяўляюць зразуменне або і падтрымку для капіталізму. Аднак было б няпраўдай, калі б я сказаў, што ўсе маладыя беларусы адносяцца з апрабатай да капіталістычных перамен. Ёсць нямала і такіх, якія досыць рэзка адмоўна ацэньваюць перамены, праяўляючы боязь, што наш капіталізм ніколі не будзе падобны на заходнееўрапейскі.

Калі б хто-небудзь на падставе напісанага мною дайшоў да вываду, што ніхто сярод старэйшых беларусаў не падтрымлівае тыя перамены, якія праводзяцца ў Польшчы і Беларусі, дык зрабіў бы памылку. Асобы з пазітыўнымі адносінамі да капіталістычных перамен сустракаюцца, хаця іх намнога менш чым тых, якія ацэньваюць перамены адмоўна. Прыкладам амаль што энтузіястычных адносін да новай Беларусі можа быць амаль шасцідзесяцігадовы прафесар Гарадзенскага універсітэта. Вось яго выказванні:

„Я быў многа гадоў членам Камуністычнай партыі, а да гэтага выкладаў навуковы камунізм і дзякуючы гэтаму пазнаў камунізм не вонкава, але ўнутрана. Скажу табе шчыра, наш камунізм меў моцна антыбеларускі твар. Гэта камуністычная партыя прычынілася да ўпадку беларускай нацыянальнай свядомасці і беларускай мовы. Беларускі народ перастаў быць гаспадаром на сваёй зямлі. А што рабілася ў сельскай гаспадарцы або навуцы. Усё залежала ад сакратароў партыі. Ці ж навуковец не ведае, як працаваць у вышэйшай установе, або селянін не ведаў, як працаваць на зямлі? Дык навошта была ім патрэбна апека з боку сакратароў? Яны ж толькі перашкаджалі людзям у працы. Вось ужо год няма партыі, а навука развіваецца нармальна. Сяляне аруць, сеюць і жнуць. Той жа народ мае свой адвечны інстынкт, розум і гэтым інстынктам і розумам будзе кіравацца ў розных галінах жыцця.

Я нарэшце пачуўся гаспадаром на ўласнай зямлі і думаю, што такое з часам скажа кожны беларус. Праўда, пакуль што выступае ў нашым жыцці многа анамалій: спекуляцыя, камбінатарства, а нават бандытызм. Ды гэта ўсё з'явы заканамерныя і неабходныя. Пасля перыяду пераходу паміж сістэмамі, усё гэта ўладзіцца, прыйдзе да нормы і парадку. Пэўна, што на ўсё патрэбен час. Адразу нешта добрае ў жыцці не станецца. Цудатворнага сродка няма. Найважнейшае, каб усё ў краіне абапіралася на свабоднай волі людзей.

Ты ведаеш, што мы на працягу многіх гадоў рабілі сапраўдныя аблавы, лавілі студэнтаў, якія хадзілі ў царкву. Лавілі, пасля асуджалі іх публічна, крытыкавалі, лаялі і рабілі невядома што. І нягледзячы на гэта ўсё царква была запоўнена студэнтамі. Ішлі туды наперакор універсітэцкім уладам. Пад канец улады Гарбачова мы адступілі ад практыкі праследавання тых студэнтаў, якія ходзяць у царкву, і што ты думаеш? Зайдзі сёння ў царкву і глянь, там увогуле няма зараз студэнтаў.

Павер, што ў нас у краіне быў сапраўды страшэнны застой. Мы ўсё болей і болей адставалі ад сусветных цывілізацыйных стандартаў. І калі б былі ўтрымаліся ў нас яшчэ гадоў дзесяць брэжнеўскія парадкі, дык мы знайшліся б на грані прорвы. Так нельга было жыць далей, так можна было толькі гінуць. Тое, што сталася, ёсць вялікім шчасцем для народаў, якія знаходзіліся ў СССР. Ведай, што перад Беларуссю адкрыўся вялікі гістарычны шанц і шанц гэты беларускі народ выкарыстае. У нас людзі многага не разумець. Многія лічаць, што тое, што зрабіў Гарбачоў, гэта вялікае няшчасце, а я табе скажу, што ён зрабіў тое, чаго вымагала гісторыя. Гарбачова не трэба асуджаць і лаяць, а людзі павінны яму ставіць помнікі".

**АЛЕСЬ БАРСКІ**

---

ЯКІЯ МЫ ЛЮДЗІ

# НА КАЛЯДЫ

Трыццаць пяць гадоў прапрацаваў прафесар са студэнтамі. Можна сказаць, што ў сваім кабінеце за гэты час нагледзеўся ўсяго. Прыходзілі да яго адважныя і менш адважныя, з добрымі і кепскімі справамі ды просьбамі, шчырыя ды менш шчырыя. У адных сапраўды здарылася бяда і трэба было ім дапамагчы прайсці праз магічны круг яго прадмета, іншыя хлусілі, гледзячы яму проста ў вочы, праз сваю неахвоту да вучобы, ляноту рабілі з сябе катаржнікаў і адсылалі на той свет цэлыя сем'і, калі ўжо бракавала бабуляў і дзядуляў з боку маці і з боку бацькі. Мелі апраўданне: былі на пахаванні, хаця найзвычайней у свеце праспалі і не былі на занятках. Што датычыць бацькоў, дык найчасцей, паводле іх слоў, яны разводзіліся, хварэлі на рака, на інфаркт, былі паралізаваныя і студэнт „пераважыў" гэта так, што не быў у стане вучыцца.

Студэнты — ён і яна, што паявіліся перад святамі на кафедры, нягледзячы на тое, што ў прафесара, як заўсёды, быў адчынены кабінет і не было ніякіх наведвальнікаў, неяк нясмела мяліся ў калідоры, пераступаючы з нагі на нагу, нават прыселі на нейкі момант у куточку калідора, пашапталіся, пасля запыталіся ў сакратаркі, ці могуць увайсці да прафесара.

Сэрца, як кажуць, пайшло ім у пяткі, калі сталі яны на парозе кабінета. Дазволіць ці не? Першым адазваўся хлопец. Набліжаюцца іх святы, сказаў ён, бо яны ж — праваслаўныя. Хацелі б і яны разам са сваімі бацькамі правесці Каляды і хаця б першы дзень свят. Але на гэтыя дні ў іх якраз прыпадаюць практычныя заняткі, а кожнае ж практыкаванне трэба залічыць у асістэнта. Ці не знайшлася б такая магчымасць, каб адпрацаваць з іншымі групамі?

Прафесар прапрацаваў не адзін дзесятак гадоў, але ніхто дагэтуль да яго з такімі просьбамі не звяртаўся. Ён са здзіўленнем глянуў на іх, на гэтых першапраходцаў, у сэрцы яго нешта зашчымела і ён з усмешкай сказаў: „Чаму ж не?! Калі ласка!"

Ён і яна ад імя невялікай, некалькіасабовай групы студэнтаў пыталіся, ці могуць прыйсці і іх сябры, каб перакласці заняткі на іншы дзень, і прафесар загадаў сакратарцы, каб перанесла ім практыкаванні на любы дзень, які яны сабе выбяруць. Мела прыйсці чалавек восем.

Асмялеўшых студэнтаў прыйшло ў два разы больш, нешта каля дваццаці асоб. На іх тварах не відаць было рэзыгнацыі.

* * *

Здаецца, толькі што выпраўлялі іх бацькі на навуку ў горад. Хваляваліся, давалі рады на дарогу. Глядзі, дзіця, не выхіляйся са сваім! Лепш сядзець ціха. А што ж тут зробіш, калі афіцыйна мы і так палякі... Прыедзеш, тады па-свойму ў хаце пагаворым. Цішэй едзеш, дзіця, далей будзеш...

І дзеці беларусаў, добра памятаючы наказы бацькоў, яшчэ да нядаўна маскаваліся як умелі. Старанна, аж занадта, вымаўлялі польскае ł, спольшчвалі імёны, нават для непазнакі заходзілі з сябрамі ў касцёл, а хрысціліся надта дыскрэтна. А што ўжо гаварыць пра свае святы! Марылі толькі, каб на Калядныя святы трапілася хоць адна нядзелька, тады можна было б паехаць дахаты... Ну, бо і хто ж бы адважыўся прызнацца, што ён святкуе інакш?! Лепш быць такім, як і ўсе. Лягчэй жыць.

* * *

Студэнты, што прыйшлі сёння адпрасіцца ў прафесара на свае святы, гэта былі ўжо іншыя людзі. Няхай сабе яшчэ нясмела, няхай яшчэ выслалі ганцоў наперад, каб зарыентавацца, выпытаць, ці прыхільны прафесар да іх просьбы, але прыйшлі і заявілі ўголас пра сваё існаванне.

А здавалася, што ўжо асіміляцыя ўзяла верх, што роднае трацім назаўсёды, што ўсё тое, з чаго мы выраслі, не мае рацыі існавання. Навошта гэта ўсё, калі выгадней быць палякам?!

У гэтых яшчэ нясмелых маладых людзей прафесар заўважыў нейкую напорыстасць, гордасць: яны сваё свята святкуюць, то і мы будзем святкаваць! Наперакор усім нявыгадам і перашкодам яны, здавалася, сваёй паставай гаварылі: мы на сваёй зямлі — не госці, тут спрадвеку жылі нашы продкі і тут мы жывем і жыць будуць нашы дзеці...

... Каб толькі даць ім шанцы, стварыць умовы...

Прафесар раздумваў і ўсміхаўся.

**АДА ЧАЧУГА**

---

## ТОЕ САМАЕ СВЯТА

Маё пакаленне не ўяўляе сабе Хрыстовага Нараджэння без ёлкі. Святочны настрой у хаце паяўляецца, менавіта, разам з гэтым па-лясному пахучым дрэвам, а яго ўпрыгожванне — асабліва для дзяцей — не менш важная падзея за ўрачыстую калядную вячэру. Таму цяжка паверыць, што звычай стаўляць на Каляды ёлку, на Беларусі зусім новы — распаўсюдзіўся ён толькі ў нашым стагоддзі.

Для прыкладу, гісторык Мікола Улашчык у кніжцы „Была такая вёска" піша, што ў яго роднай мясцовасці каля Менска (трэба сказаць, на той час даволі багатай) да І сусветнай вайны ёлкі не ведалі зусім. Мой бацька пацвярджае напісанае прафесарам Улашчыкам. У нашай вёсцы — Тыневічы Нараўскай гміны — ёлак у міжваенны час таксама не ставілі. Галоўнай адзнакай свята была каляда — невялічкі пучок незмалочанага жыта. Каляду ставілі ў куце пад абразом і стаяла яна аж да Вадохрышча. Увесь гэты час лічыўся святочным, строга забаранялася тады шыць і прасці ў хаце. Гэтыя працы маглі б сцягнуць на хатнюю жывёлу розныя хваробы. З цягам часу забарону працаваць у калядны час змякчалі, але і цяпер вечары ад Раства да Трох Каралёў лічацца святымі.

Сёння таксама ў хаце маіх бацькоў падчас свята стаіць за сталом каляда, а пад абрусам ляжыць сена, але найбольш ужо ўвагі прысвячаецца ёлцы. Ёлка з'явілася ў Тыневічах толькі пасля апошняй вайны, але не ва ўсіх хатах адразу і не штогод. Зразумела, што ставілі яе перш за ўсё там, дзе былі малыя дзеці. Дзеці ёлку і ўпрыгожвалі. А вешалі на дрэўца цацкі пераважна ўласнага вырабу: папяровыя птушкі, анёлкі і ланцужкі, зорачкі, пернікі, невялічкія яблыкі-палёўкі, якія адзначаліся тым, што маглі ляжаць цэлую зіму і не псаваліся. Радзей паяўляліся цукеркі ў бліскучых паперках, а шкляныя шарыкі — „бомбкі", гэта ўжо зусім новая з'ява.

З чым яшчэ для нас сёння спалучаюцца Каляды. Думаю, што з перадсвяточнымі парадкамі і пакупкамі. Купляем блізкім асобам падарункі, купляем новыя рэчы для дому, купляем таксама шмат прадуктаў на святочны стол, каб быў ён як найбагацейшы. Каляды, праўда, заўсёды лічыліся багатым святам, але тое багацце было іншае. Дазвольце, што тут зноў я пакарыстаюся памяццю бацькі.

Перад вайною ў Тыневічах было тры крамы, дзве яўрэйскія — у Зэйтка і ў Матуса, — і адна ў беларусаў — Дарчынымі іх звалі. Але што гэта былі за крамы! Жанчына магла ўвесь тавар вынесці ў прыполе. Аднак забяспечвалі яны прадуктамі цэлую нашу вёску, тады даволі людную, і некалькі суседніх, меншых. Я перастаў гэтаму здзіўляцца, калі пачуў, што куплялі перад святамі ў сям'і майго дзеда. А куплялі ўсяго два прадукты: цукар і селядцы. Ды і то не больш, у пералічэнні на сённяшнія меркі, як па кілаграме. Усё астатняе выраблялася ў гаспадарцы. Свая была ж мука, кумпяк, свой мак, свае сушаныя грыбы, яблыкі, грушы. Нават алей быў свой, бо кожны гаспадар вырошчваў лён або каноплі.

Бацькі мае не памятаюць, каб раней лічылі стравы на святочным стале. Толькі пазней пачалі гаварыць, што павінна іх быць якраз дванаццаць. Да вайны напэўна на ніводным тыневіцкім стале, нават самым багатым, не было дванаццаці страў.

Зразумела, калісьці, як і цяпер, моладзь калядавала. У Тыневічах хадзілі толькі з „гвяздаю", пры чым малодшыя — самыя хлопцы, а толькі старэйшая моладзь разам, хлопцы і дзяўчаты. У вёсцы не было больш, як чатыры-пяць груп калядні каў.

У суседніх вёсках былі яшчэ і „гэроды". Хадзілі яны пераапранутыя за характарыстычныя постаці, такія як: Ірад, Смерць, Каза, Жыд, Каваль. Усім калядні кам плацілі людзі не грашмі, а пірагамі і каўбасамі.

Наканец некалькі слоў адносна назвы свята. У Тыневічах, як і ва ўсёй нашай ваколіцы Божае Нараджэнне людзі называюць: Руздво. Не ўжываецца ў нас назва „каляды" для саміх свят, а толькі на абазначэнне дзён перад Раждж аством, Новым годам і Вадохрышчам.

На Беларусі больш папулярныя варыянты назваанняў гэтых дзён: куцця або вілея.

Нягледзячы аднак на дробныя разыходжанні ў назвах, усюды людзі адзначаюць тыя самыя святы.

Час гэты заўсёды мне памятаецца як вельмі радасны. Тое ж самае гавораць мае бацькі. Няхай і ў гэтым годзе святы пройдуць усім нам у спакойнай сардэчнай атмасферы. Гэта не менш важнае, чым багатае застолле. Так было калісь, так і ёсць і сёння.

**МІКОЛА ВАЎРАНЮК**